*Старажытнае Койданава (цяперашні Дзяржынск) вядзе сваю гісторыю з XIIст., з прыгожай і вельмі адпаведнай яму назвы Крутагор'е. У хрысціянскім свеце мястэчка было найбольш вядомае, пачынаючы з XVIIст., дзякуючы Кальвінскаму Збору. Значна раней, ажно ў 1439г., з'явіўся тут першы каталіцкі касцёл – невялічкая драўляная святыня, якую збудаваў святой памяці ксёндз Міхал Заусцінскі.*



*У другой палове XVIIIст. у Койданаве быў узведзены прыгожы мураваны касцёл Божай Апекі, які праз нейкі час стаў ахвяраю пажару. Адбудаваны касцёл атрымаў назву святой Анны.*

*Другая сусветная вайна і дзесяцігоддзі атэізму пасля яе зруйнавалі адметную архітэктуру Койданава, знішчылі старажытную готыку Кальвінскага Збору і ўзнёслыя муры касцёла св.Анны, сваім жорсткім матэрыялізмам знявечылі людскія душы.*



*Таму а.Крыштафу Букоўскаму, місіянеру ордэна Святой Сям'і, прыйшлося адбудоўваць не толькі гмах касцёла, але і святыні людскіх душаў. За гады ахвярнай душпастырскай працы ў Дзяржынску а.Крыштафу ўдалося шмат зрабіць для таго, каб вернікі яго парафіі ўсвядомілі, што касцёл пачынаецца ў іх дома, што кожная сям'я – гэта маленькая святыня і яе трэба любіць, шанаваць і ўмацоўваць.*

*Школай гэтай сям'і павінен стаць і дом законны, будаўніцтва якога неўзабаве будзе завершана.*



№1-2 (39-40) 1998

***...Урэшце Маё Беззаганнае Сэрца затрыумфуе***
*(з аб'яўленьняў Маці Божай у Фаціме)*



# Ave Maria

ЧАСОПІС МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ



## СТУДЗЕНЬ

1 чц **Новы Год**
**Святой Багародзіцы**
Мечыслава
2 пт Базыля, Рыгора
3 сб Гэнавэфы, Дануты
4 нд **II нядзеля**
Альжбеты, Анелі
5 пн Сымона, Яна, Марцэліны
6 аўт **Трох Каралёў**
Каспара, Мельхіёра, Бальтазара
7 ср РаймANDA, Люцыяна
8 чц Северына, Тэафіла
9 пт Марцэліна, Адрыяна
10 сб Рыгора, Вільгельма
11 нд **Свята Хрышчэння Пана**
Ганараты, Аляксандра
12 пн Аркадзя, Грэты
13 аўт Гілярыя, Веранікі
14 ср Фелікса, Амадэя
15 чц Паўла, Арнольда
16 пт Марцэлія, Гілярыя
17 сб Антонія, Расціслава
18 нд **II нядзеля звычайная**
Малгажаты, Крысціны
19 пн Генрыка, Марыюша
20 аўт Фабіяна, Себасцьяна
21 ср Агнешкі, Ярослава
22 чц Вінцэнта, Віктара
23 пт Раймонда, Ільдэфонса
24 сб Францішка з Саль, Феліцыяна
25 нд **III нядзеля звычайная**
Наварачэнне св.Паўла
Эльвіры
26 пн Цімафея і Ціта, Палікарпа
27 аўт Бл.Юрыя Матулевіча, Анелі
28 ср Тамаша з Аквіну, Юльяна
29 чц Здзіслава, Валерыя, Балясласвы Лямант
30 пт Гіацынты, Тэафіла
31 сб Яна Боскі, Людвіка




## ЛЮТЫ

1 нд **IV нядзеля звычайная**
Брыгіты, Анны
2 пн **Свята Ахвяравання Пана (Маці Божай Грамнічнай)**
Марыі, Мірославы
3 аўт Блажэя, Аскара
4 ср Жаны, Андрэя
5 чц Агаты, Адэлаіды
6 пт Паўла Мікі, Дароты, Багдана
7 сб Тэадора, Рычарда
8 нд **V нядзеля звычайная**
Геранiма, Стэфана
9 пн Апалоніі, Мар'яна
10 аўт Схаластыкі, Клары
11 ср Найсв.Марыі Панны з Люрда
Альгерда
12 чц Эўлаліі, Мадэста
13 пт Гільберта, Іардана
14 сб Кірыла і Мяфодзія, Валянціна
15 нд **VI нядзеля звычайная**
Зыгфрыда, Клаўдзія, Явіта
16 пн Юльяны, Даніэля
17 аўт Аляксея, Сільвана
18 ср Флавіяна, Канстанцы
19 чц Конрада, Мансвэта
20 пт Зяновія, Лявона
21 сб Пятра, Элеаноры
22 нд **VII нядзеля звычайная**
Малгажаты
23 пн Палікарпа, Ізабэлы
24 аўт Сяргея, Богуша
25 ср **Папялец**
Канстанцыя, Віктара
26 чц Аляксандра, Міраслава
27 пт Габрыэля, Анастазіі, Пракопа
28 сб Рамана, Людаміра, Освальда

## САКАВІК

1 нд **I нядзеля Вялікага Посту**
Альбіна, Радаслава
2 пн Алены, Сімпліцыя
3 аўт Кунегунды, Тыцыяна
4 ср Казіміра, Люцыяна
5 чц Тэафіла, Віргілія
6 пт Калеты, Ружы, Агнешкі
7 сб Пэрпэтуі і Феліцыты
8 нд **II нядзеля Вялікага Посту**
Яна Божага, Бэаты
9 пн Францішка, Дамініка, Кацярыны
10 аўт Макара, Яўгеніі
11 ср Канстанціна, Сафроніі
12 чц Максімільяна, Тэафіла
13 пт Крысціны, Бажэны, Патрыцыі
14 сб Лявона, Мацільды
15 нд **III нядзеля Вялікага Посту**
Клеменса, Захарыя, Людвікі
16 пн Герберта, Юльяна
17 аўт Патрыка, Збігнева, Гертруды
18 ср Кірыла, Эдварда, Гвідона
19 чц св.Юзафа, Багдана
20 пт Клаўдзіі, Маўрыкія
21 сб Любаміра, Мікалая
22 нд **IV нядзеля Вялікага Посту**
Бенвенута, Кацярыны, Багуслава
23 пн Турыбіі, Пелагеі
24 аўт Кацярыны, Габрыэля
25 ср **Звеставанне НМП**
Марыі, Пракопа, Венчыслава
26 чц Людгера, Ларысы
27 пт Руперта, Лідзіі
28 сб Жаны, Анелі
29 нд **V нядзеля Вялікага Посту**
Бертольда, Стэфана
30 пн Леанарда, Амадэя
31 аўт Веніяміна, Бальбіны

***Малітва да Найсвяцейшай Марыі Панны з Люрда***

***Міласэрны Божа, умацуй нас, слабых, каб мы, памятаючы пра Беззаганную Маці Божую, з Яе дапамогаю маглі вызваліцца ад свае чалавечае нізасці. Амэн.***

AveMaria

*ДА ЮБІЛЕЮ 2000 ГОДА НАРАДЖЭННЯ ХРЫСТА*

# МАЛІТВА
## Святога Айца Яна Паўла II на другі год падрыхтоўкі да Вялікага Юбілею 2000 Года

1. Дух Святы,
найсалодкі госць сэрцаў,
адкрый нам глыбокі сэнс
Вялікага Юбілею
і падрыхтуй наш розум,
каб мы маглі святкаваць яго з вераю,
у надзеі, якая не падманвае,
у любові, якая не чакае ўзаемнасці.

Дух праўды,
які пранікаеш у глыбіні Бога,
Ты – памяць і прароцтва Касцёла,
вядзі чалавецтва
да прызнання Езуса з Назарэту
Панам славы,
Збаўцам свету,
найвышэйшай поўняй гісторыі.

*Прыйдзі, Дух любові і спакою!*

2. Дух Творца,
таямнічы будаўнік Валадарства,
моцай тваіх святых дароў
вядзі Касцёл
адважна пераступіць
парог новага тысячагоддзя,
каб нёс ён будучым пакаленням
святло збаўчага Слова.

Дух святасці,
Боскае Тхненне, якое рухае сусвет,
прыйдзі і аднаві аблічча зямлі.
Абудзі сярод хрысціянаў
прагу поўнай еднасці,
каб яны былі ў свеце
дзейсным знакам і сродкам
глыбокай лучнасці з Богам
і адзінства ўсёй сям'і чалавечай.

*Прыйдзі Дух любові і спакою!*

3. Дух супольнасці,
Душа і падтрымка Касцёла,
учыні, каб багацце харызмаў і таямніцаў
служыла еднасці Цела Хрыстовага:
учыні, каб свецкія вернікі,
законнікі і святары
супрацоўнічалі дзеля
адзінага Валадарства Божага.

Дух Суцяшальнік,
невычэрпная крыніца радасці і спакою,
абудзі салідарнасць да тых,
што ў патрэбе,
дай апеку хворым,
надзею – расчараваным,
а ўсім – запал будаваць
лепшую будучыню.

*Прыйдзі, Дух любові і спакою!*

4. Дух мудрасці,
Ты дакранаешся розумаў і сэрцаў,
скіруй развіццё навукі і тэхнікі
на шлях служэння жыццю,
справядлівасці і спакою.
Зрабі плённым дыялог
з людзьмі іншых рэлігій,
учыні, каб розныя культуры
адкрыліся на каштоўнасці Евангелля.

Дух жыцця,
дзеяннем якога Слова сталася целам
ва ўлонні Найсвяцейшай Дзевы,
якая ўмела ўважліва слухаць,
учыні нас падатлівымі
да натхненняў Тваёй любові
і гатовымі прымаць знакі часу,
якія Ты ставіш на шляху гісторыі.

*Прыйдзі, Дух любові і спакою!*

5. Табе, Дух любові, разам з Усемагутным Айцом
і Адзінародным Сынам,
хай будзе хвала, пашана і слава на векі вякоў. Амэн.



# КАТЭХІЗІС КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА

**1998 год (...) будзе асаблівым чынам прысвечаны Духу Святому і Яго асвячальнай прысутнасці сярод Супольнасці вучняў Хрыстовых. Вялікі Юбілей заканчэння другога тысячагоддзя мае (...) пнеўматалагічны профіль, бо таямніца ўцелаўлення здзейснілася праз Духа Святога** (*Tertio millennio adveniente*).

## *Веру ў Духа Святога*

**243**
Перад сваёю Пасхаю Езус прадказвае спасланне "іншага Параклета" (Заступніка), Духа Святога. Дух, які дзейнічае, пачаўшы ад стварэння, а калісьці "гаварыў праз прарокаў", будзе цяпер з вучнямі і будзе ў іх, каб іх навучаць усяму і весці да "поўнай праўды" (Ян 16, 13). Такім чынам, Дух Святы аб'яўлены як адрозная Боская Асоба ў адносінах да Езуса і да Айца.

**739**
Паколькі Дух Святы ёсць намашчэннем Хрыста, Хрыстус – Галава Цела – разлівае яго на свае члены, каб іх карміць, аздараўляць, вызначаць іх узаемныя функцыі, ажыўляць, пасылаць, каб давалі сведчанне, далучаць да свае Ахвяры, якую складае Айцу, і да свайго заступніцтва за ўвесь свет. Праз сакрамэнты Касцёла



Хрыстус удзяляе членам свайго Цела Духа Святога і Асвячальніка.

**152**
Немагчыма верыць у Езуса Хрыста, не маючы ўдзелу ў Яго Духу. Гэта менавіта Дух Святы аб'яўляе людзям, кім ёсць Езус. Сапраўды, ніхто "не можа сказаць без дапамогі Духа Святога: "Панам ёсць Езус" (1 Кар 12, 3). "Дух пранікае ўсё, нават глыбіні Бога самога... і таго, што Божае, не ведае ніхто, толькі Дух Божы" (1 Кар 2, 10-11). Толькі сам Бог ведае ва ўсёй паўнаце Бога. Мы верым у Духа Святога, паколькі Ён з'яўляецца Богам.

**81**
Святое Пісанне – гэта мова Божая, пісьмова замацаваная праз натхненне Духа Святога. Божае Слова, якое было Хрыстом Панам і Духам Святым даверана Апосталам, Святая Традыцыя ва ўсёй паўнаце перадае іх наступнікам, каб, асвечаныя Духам Праўды, яны верна захоўвалі яго ў сваім навучанні, тлумачылі і распаўсюджвалі.

"Плод жа духа: любоў, радасць, мір, доўгацярплівасць, дабрыня, міласэрнасць, вера, лагода, стрыманасць" (*Гал 5, 22-23*).







# З ПАСЛАННЯ ЯГО СВЯТАСЦІ ПАПЫ ЯНА ПАЎЛА II НА XXXI СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ МІРУ

***Будова справядлівага міру – заданне ўсіх і кожнага***

7. Справядлівасць кожнага чалавека – гэта крыніца спакою для ўсіх. Ніхто не можа ўхіліцца ад гэтага абавязку, які мае такое рашаючае значэнне для роду людскога. Для кожнага чалавека ён з'яўляецца заклікам да дзейнасці ў меру індывідуальнай кампетэнцыі і задання.

Я звяртаюся з заклікам перадусім да вас, кіраўнікоў дзяржаваў і народаў, да тых, каму была даверана найвышэйшая адказнасць за законнасць у вашых краінах. Рэалізацыя гэтага задання, несумненна, нялёгкая, але яна з'яўляецца адным з самых важных абавязкаў. Каб заканадаўства дзяржаваў, якім вы служыце, было для грамадстваў гарантыяй справядлівасці і прычынялася да пастаяннага ўзрастання грамадзянскай свядомасці.

Будова справядлівага міру патрабуе, акрамя таго, укладу ўсіх грамадскіх колаў – кожнага ў адпаведнай сферы і ў супрацоўніцтве з іншымі сацыяльнымі групамі. Заклікаю асабліва вас, настаўнікі, занятыя на ўсіх узроўнях навучання і выхавання новых пакаленняў: фармуйце іх у духу маральных і грамадскіх каштоўнасцяў, прывіваючы ім глыбокае ўсведамленне правоў і абавязкаў, пачынаючы ад школьнай парты. Прывівайце пачуццё справядлівасці, каб прывіць пачуццё спакою: гэта адно з вашых галоўных заданняў.

У выхаваўчым працэсе незаменная роля належыць сям'і, якая застаецца самым важным асяродкам фармавання маладога пакалення. Ад вашага прыкладу, дарагія бацькі, у вялікай меры залежыць маральнае аблічча вашых дзяцей: фармуецца яно пад уплывам стылю адносінаў, якія вы падтрымліваеце ў сям'і і па-за ёю. Сям'я – гэта першая школа жыцця, і фармаванне, атрыманае ў ёй, вызначае будучае развіццё асобы.

Вам, моладзь усяго свету, якая спантанна імкнецца да справядлівасці і міру, я кажу: заўсёды падтрымлівайце ў сабе жывую прагу гэтых ідэалаў, рэалізуйце іх цярпліва і настойліва ў канкрэтных абставінах вашага жыцця. Умейце адкінуць спакусы, якія падштурхоўваюць вас сысці з дарогі законнасці, каб імкнуцца да фальшывых міражоў поспеху альбо багацця, а вучыцеся радавацца таму, што з'яўляецца правільным і сапраўдным, нават тады, калі такія паводзіны патрабуюць адрачэння і загадваюць вам ісці супраць цячэння. Менавіта такім чынам "справядлівасць кожнага чалавека становіцца крыніцаю спакою для ўсіх".

*Спачуванне і салідарнасць – шлях спакою*

8. Шпаркімі крокамі набліжаецца Юбілей 2000-га Года. Для хрысціянаў гэта час, асабліва чынам прысвечаны Богу, Пану гісторыі, гэта час, які нагадвае ўсім пра глыбокую залежнасць стварэння ад Стварыцеля. Аднак у біблійнай традыцыі гэта быў таксама час, у які вызваляліся нявольнікі, зямля вярталася яе сапраўдным уладальнікам, анулюваліся даўгі, і ў выніку аднаўлялася роўнасць паміж усімі членамі грамадства. Такім чынам, гэта час, які асабліва спрыяе імкненню да справядлівасці, што вядзе да міру.

Дзякуючы веры ў Бога-Любоў і ўдзелу ў паўсюдным адкупленні, здзейсненым Хрыстом, хрысціяне пакліканыя быць справядлівымі і жыць у міры з усімі, паколькі "*Езус дае нам не толькі спакой. Ён нам дае свой спакой, паяднаны з Яго справядлівасцю. Ён стаўся нашым спакоем і нашаю справядлівасцю*" (Ян Павел II, Гамілія на Yankee Stadium у Ню-Ёрку 2.10.1979). Я сказаў гэтыя словы амаль дваццаць гадоў таму, але на фоне радыкальных пераменаў, якія цяпер адбываюцца, яны набываюць яшчэ больш жывы і канкрэтны сэнс.

Рысаю, якая вызначае хрысціяніна, – сёння яшчэ больш, чым у мінулым, – павінна быць любоў да ўбогіх, слабых і церпячых. Практычная рэалізацыя гэтага нялёгкага паклікання патрабуе поўнага адрачэння ад ілюзорных каштоўнасцяў, якія загадваюць чалавеку шукаць толькі ўласнай карысці: улады, прыемнасцяў, абагачэння любою цаною. Так, менавіта да такога радыкальнага навяртання пакліканы вучні Хрыста. Той, хто вырашыць ступіць на гэты шлях, сапраўды спазнае "справядлівасць, спакой і радасць у Духу Святым" (пар.Рым 14, 17) і будзе радавацца "мірным плёнам справядлівасці" (пар.Гбр 12, 11).

Я хачу нагадаць хрысціянам усіх кантынентаў перасцярогу Другога Ватыканскага Сабору: "Найперш трэба кампенсаваць патрабаванні справядлівасці, каб не ахвяроўваць як дары любові таго, што па праву належыць справядлівасці". Сапраўды салідарнае грамадства паўстае тады, калі тыя, хто валодае багаццямі, не абмяжоўваюцца дапамогаю бедным, даючы толькі тое, што ў іх лішняе. Звыш таго, ахвяры матэрыяльных каштоўнасцяў недастакова: патрэбны дух спачування і салідарнасці, які дазваляе зразумець, што магчымасць клапаціцца пра патрэбы бедных братоў з'яўляецца гонарам. Сёння можна заўважыць як у хрысціянаў так і ў вызнаўцаў іншых рэлігій і многіх людзей добрай волі тугу па стылі жыцця, якое вызначаецца прастатою і дзякуючы якому справядлівы падзел пладоў Божага стварэння зможа стаць рэальнасцю. Хто жыве ва ўбостве, той не можа больш чакаць, ён адчувае нястачу цяпер і таму мае права тут жа атрымаць тое, чаго вельмі патрабуе.

*Дух Святы дзейнічае ў свеце*

9. У першы тыдзень Адвэнту распачаўся другі год непасрэднай падрыхтоўкі да Вялікага Юбілею 2000-га Года, прысвечаны Духу Святому. Дух надзеі дзейнічае ў свеце. Ён прысутны ў дзеяннях тых, хто бескарысна служыць занядбаным і церпячым, хто прымае імігрантаў і бежанцаў, хто адважна супрацьстаіць этнічнай, культурнай ці рэлігійнай дыскрымінацыі асобы альбо цэлых грамадстваў; Ён прысутны асабліва ў высакароднай дзейнасці тых, хто цярпліва і нястомна імкнецца да ўмацавання міру і паяднання паміж даўнімі праціўнікамі і ворагамі. Вось знакі надзеі, якія з'яўляюцца стымулам да пошукаў справядлівасці, што вядзе да міру!

Сэрцам евангелічнага паслання з'яўляецца Хрыстус – Мір і Паяднанне для ўсіх. Няхай Яго Аблічча асвятляе шлях чалавецтва, якое ўжо ў хуткім часе павінна пераступіць парог трэцяга тысячагоддзя.

Яго справядлівасць і Яго мір няхай стануць дарам для ўсіх людзей, нягледзячы на якую б то ні было розніцу паміж імі.

*"Тады пустыня стане садам,*
*а сад лесам лічыцца будзе.*
*На пустыні закон знойдзе месца,*
*а справядлівасць паселіцца ў садзе.*
*Справаю справядлівасці будзе мір,*
*а плёнам закону – вечная бяспека".*
*(Іс 32, 15-17).*

*Ватыкан, 8 снежня 1997г.*

***Ян Павел II, Папа***







# 11 лютага — 140 гадоў з дня аб'яўленняў Маці Божай у Люрдзе

Першы раз Найсвяцейшая Марыя Панна аб'явілася сціплай чатырнаццацігадовай Бернардэце ў Люрдзе 11 лютага 1858г.

25 сакавіка, калі Бернардэта запытала ў Цудоўнай Пані яе імя, Яна адказала: "Я — Беззаганнае Пачацце".

Найсвяцейшая Марыя Панна з Люрда ўшаноўваецца ва ўсіх кутках свету. Шматлікія цуды, якія адбыліся праз Яе заступніцтва, выклікалі адно з самых цудоўных аднаўленняў у гісторыі Касцёла.

**М А Л І Т В А**
***Міласэрны Божа, умацуй нас, слабых, каб мы, памятаючы пра Беззаганную Маці Божую, з Яе дапамогаю маглі вызваліцца ад свае чалавечае нізасці. Амэн.***

# 18 лютага — дзень святой Марыі Бернардэты Субіру



Святая Марыя Бернардэта Субіру нарадзілася ў Францыі ў мясцовасці Люрд 7 студзеня 1844г. У 14 гадоў яна стала сведкаю 18 аб'яўленняў Найсвяцейшай Марыі Панны ў Массабельскім гроце непадалёк ад Люрда. У сваіх аб'яўленнях Найсвяцейшая Марыя Панна ўказала дзяўчынцы крыніцу з цудадзейнаю аздараўляльнаю сілаю.

У 1866г. святая Марыя Бернардэта ўступіла ў закон школьных Сясцёр Міласэрнасці Нотр-Дам у Неверсе, дзе праз 12 гадоў яна склала вячыстыя шлюбы. Тыя, хто ведаў дзяўчыну, захапляліся яе пакораю і праўдзівасцю яе сведчанняў. Нягледзячы на гэта, Бернардэта павінна была прайсці праз шматлікія суровыя выпрабаванні ў сваім рэлігійным жыцці і праявіць гераічную цярплівасць у хваробе. Яна ўсведамляла, што аздараўляльная крыніца была прызначана не для яе. Бернардэта часта гаварыла: "Найсвяцейшая Марыя Панна выкарыстала мяне ў якасці мятлы. Калі праца будзе завершана, мятлу паставяць за дзвярыма і там яна застанецца". Памерла Бернадэта ў 1879г., не дажыўшы да 35 гадоў.

**М А Л І Т В А**
***Пане Божа, Ты спаслаў нябесныя дары на святую Бернадэту, дапамажы нам, каб мы наследавалі яе дабрадзейнасці ў часе нашай зямной вандроўкі і разам з ёю радаваліся вечнаму шчасцю ў небе. Амэн.***




# ПАПА БЕАТЫФІКАВАЎ НОВЫХ БЛАГАСЛАВЁНЫХ

9 лістапада ў Ватыкане Папа Ян Павел II беатыфікаваў венгерскага біскупа Вілмаса Апора, біскупа Джавані Батыста Скалябрыні, апекуна італьянскіх эмігрантаў, і мексіканскую законніцу Марыю Вінцэнту ад св.Дароты, апякунку хворых. "Узмоцнены сведчаннем новых благаслаўёных і іх заступніцтвам, Касцёл з надзеяй глядзіць у будучыню і з энтузіязмам рыхтуецца пераступіць парог новага тысячагоддзя, абвяшчаючы, што Хрыстус заўсёды ёсць адзіным адкупіцелем чалавецтва: учора, сёння, заўсёды!" – такімі словамі Ян Павел II закончыў беатыфікацыйную Імшу. На ўрачыстасць сабралася 6 тысяч пілігрымаў разам з прэзідэнтам Венгрыі Арпадам Гёнцам, які напярэдадні быў прыняты Папам на аўдыенцыі, а ў канцэлебры ўдзельнічалі шэсць венгерскіх біскупаў.

Гаворачы пра асобу біскупа Апора, жыццё якога ўкаранавана мучаніцтвам, Папа заўважыў, што "ён быў пробашчам убогіх, і гэтае служэнне працягваў як біскуп у змрочныя часы другой сусветнай вайны, стаўшы дабрачынцам убогіх і абаронцам праследаваных. Дзеля прынцыпаў Евангелля ён не баяўся асуджаць несправядлівасць і злоўжыванні ў адносінах да меншасцяў, асабліва супраць габрэйскай супольнасці". Потым Ян Павел II падкрэсліў, што новы благаслаўёны быў забіты ў Вялікую Пятніцу: "гэтак, дзякуючы мучаніцтву, ён перажыў уласную Пасху, пераходзячы ад геранчага сведчання любові да Хрыста і салідарнасці з братамі да кароны хвалы, абяцанай верным слугам". Папа падкрэсліў, што гераічнае сведчанне біскупа Вілмаса Апора з'яўляецца гонарам гісторыі шляхетнага венгерскага народа.

Гаворачы пра біскупа Джавані Батыста Скалябрыні, Ян Павел II нагадаў, што з-за стараннасці, з якой ён уводзіў ва ўсіх парафіях метадычнае вывучэнне катэхізіса сярод дзяцей і дарослых, Пій XI назваў яго "апосталам катэхізіса". Новы благаслаўёны быў таксама "апосталам шматлікіх суродзічаў, якія мусілі пакінуць бацькаўшчыну, часта ў складаных варунках, калі абсалютна рэальнай была небяспека страціць веру. Ён быў для іх айцом і надзейным кіраўніком". "Мы можам сказаць, што Джавані Батыста Скалябрыні глыбока перажыў пасхальную таямніцу не праз мучаніцтва, але служачы Хрысту, убогаму і ўкрыжаванаму ў шматлікіх патрабуючых і церпячых, якіх узлюбіла яго сэрца сапраўднага пастыра, салідарнага з сваёй аўчарняй".

Трэцяя з беатыфікаваных 9 лістапада, Марыя Вінцэнта, была бязмежна адданая службе хворым і пакутуючым. "Абвяшчаючы цяпер благаслаўёнымі Вілмаса Апора, Джавані Батыста Скалябрыні і Марыю Вінцэнту ад св.Дароты, мы прагнем падзякаваць Богу за ласку іх Хросту і за ўсё тое, што ён зрабіў у іх жыцці: *...калі хто не народзіцца з вады і Духа, не можа ўвайсці ў Валадарства Божае* (Ян 3,5)." (KAI)





# Новы благаслаўёны біскуп Вілмас Апор

Біскуп Вілмас (Вільгельм) Апор, беатыфікаваны Янам Паўлам II 9 лістапада, быў рашучым праціўнікам нацыяналістычнай расавай нянавісці. Яго забілі ў 1945г. падчас узяцця Дзьёра Савецкай Арміяй. Святара застрэліў савецкі салдат, які патрабаваў выдаць жанчын і дзяўчат, схаваных у сутарэннях біскупскага палаца. Успамін пра венгерскага біскупа-мучаніка Касцёл будзе святкаваць 23 мая – у гэты дзень пасля падзення ў Венгрыі камуністычнага рэжыму саркафаг Вілмаса Апора перанеслі ў катэдру ў Дзьёр.

Жыццё біскупа, які паходзіў з арыстакратычнай сям'і, нібы люстэрка драматычнага лёсу Венгрыі ў першай палове XXст. У 1919г. ён пачаў вывучаць тэалогію ў міжнароднай духоўнай семінарыі ў Інсбруку. У 1915г. прыняў святарскія пасвячэнні, а ў 1941г. стаў біскупам Дзьёра. Па загадзе гітлераўскай Германіі ў Венгрыі дзейнічалі антыгабрэйскія законы, але адначасова краіна стала прытулкам для некалькіх дзесяткаў тысяч габрэяў з розных куткоў Еўропы. Вілмас Апор, які ўсё жыццё апекаваўся людзьмі ўбогімі, праследаванымі і адрынутымі на ўзбочыну грамадскага жыцця, быў перакананы, што Касцёл павінен выступіць супраць праследу габрэяў.

У казанні на свята Спаслання Духа Святога ў 1944г. біскуп Апор сказаў, што ўсе паслядоўнікі нянавісці на расавай глебе – гэта паганцы, і асабліва тыя, што лічаць магчымым праследаванне людзей толькі таму, што яны габрэі. "Кожны, хто ўдзельнічае ў злачынствах супраць іншых людзей альбо пагаджаецца з імі, робіць смяротны грэх".

Біскуп не толькі словамі, але і практычна дапамагаў габрэям. Пры падтрымцы сваіх швейцарскіх сваякоў, у т.л. знакамітага тэолага Ганса Урса фон Бальтазара, арганізаваў нефармальную акцыю дапамогі габрэям. Адначасова Вілмас Апор спрабаваў пераканаць сваіх субратоў у святарстве ў тым, што і яны павінны публічна выказвацца супраць расавай нянавісці і праследу габрэяў. "Нам нельга пагаджацца з такім антысемітызмам. Кожны святар, пачынаючы ад Папы і ўсіх членаў епіскапату, павінен асудзіць яго", – пісаў ён.

У выніку намаганняў біскупа Апора, а таксама распараджэння Папы Пія XII, перададзенага праз апостальскага нунцыя прымасу краіны, венгерскія біскупы апублікавалі супольны пастырскі ліст, у якім пратэставалі супраць праследу габрэяў. З-за ўціску ўладаў гэты ліст, аднак, ніколі не быў прачытаны з амбонаў, але ўсё ж садзейнічаў таму, што многія прадстаўнікі духавенства ўключыліся ў дапамогу габрэям.

У ходзе апошніх баёў паміж адступаючымі немцамі і Савецкай Арміяй частка Дзьёра, дзе знаходзіўся біскупскі палац, апынулася ў руках савецкіх жаўнераў. 29 сакавіка, у Вялікі Чацвер, немцы падпалілі многія будынкі, а таксама вежу і дах катэдры. 30 сакавіка біскуп Апор быў паранены выстралам савецкага вайскоўца, калі забараніў п'яным жаўнерам увайсці ў бомбасховішча, дзе знайшлі прытулак жанчыны і дзяўчаты. Біскуп памёр ад ран у Велікодную Нядзелю.

Каталікі Венгрыі чакалі беатыфікацыі Вілмаса Апора многія гады. Чакалі яе ў верасні 1996г. падчас візіту ў краіну і ў сам Дзьёр Папы Яна Паўла II. Пра гераічную смерць іерарха даводзілася маўчаць амаль усе гады камуністычнага рэжыму: толькі ў 1984г. імя Вілмаса Апора ўпершыню з'явілася ў друкаваных дакументах. (KAI)

ДА ЮБІЛЕЮ 2000 ГОДА НАРАДЖЭННЯ ХРЫСТА

***2000-гадоваму юбілею хрысціянства прысвяцілі арганізатары (Беларускі хрысціянскі адукацыйны фонд імя святых Кірыла і Мятода, цэнтр “Хрысціянская Расія” з Італіі і Хрысціянская духоўная бібліятэка з Масквы) выставу “Са Святой Зямлі – да ўсіх народаў. Распаўсюджванне хрысціянства ў першыя стагоддзі”, якая з кастрычніка 1997г. да пачатку гэтага года праходзіла ў Мінску. Яна стала своеасаблівым працягам іншай выставы, якую ў сакавіку 1996г. у італьянскім горадзе Рыміні правяла асацыяцыя “Форум за дружбу паміж народамі”. Тады ў Рыміні за пяць месяцаў працы выставы звыш 500 тыс. яе наведвальнікаў змаглі пабачыць каля 300 унікальных экспанатаў, прадстаўленых больш як 30 музеямі і навуковымі ўстановамі з розных краінаў, сярод якіх Ерузалемскае ўпраўленне старажытнасцяў, Брытанскі музей, Папская свята-археалагічная камісія, Ватыканскія і Капіталійскія музеі Рыма. Сабраныя разам, гэтыя экспанаты – археалагічныя знаходкі апошніх дзесяцігоддзяў, якія адносяцца да перыяду ўзнікнення хрысціянства, – выклікалі велізарны інтарэс. З-за немагчымасці транспартаваць падобную выставу дзеля паказу ў іншых краінах свету, было вырашана падрыхтаваць яе фотадакументальную экспазіцыю, якая і экспанавалася ў зале Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта ў Мінску.***

# "СА СВЯТОЙ ЗЯМЛІ – ДА ЎСІХ НАРОДАЎ"



Выставу адкрывала цытата з ліста, які ў IIст. быў напісаны ананімным хрысціянскім аўтарам: *“Хрысціяне не адрозніваюцца ад іншых людзей ні краінай, ні мовай, ні вопраткай. [...] Іх вучэнне – не плён думкі і не вынаходніцтва людзей, якія шукаюць новага; яны не схільныя да якога-небудзь чалавечага вучэння, як іншыя. Але, жывучы ў элінскіх і варварскіх гарадах, дзе каму давялося, і наследуючы звычаі тых жыхароў у вопратцы, ежы і ва ўсім іншым, яны прадстаўляюць дзіўны і насамрэч неверагодны лад жыцця. Жывуць у сваёй айчыне, але як прышэльцы; бяруць ва ўсім удзел як грамадзяне і ўсё цярпяць як чужаземцы. Для іх усякая чужая краіна – айчына, і ўсякая айчына – чужы край. [...] Яны знаходзяцца на зямлі, але з'яўляюцца нябеснымі грамадзянамі, падпарадкоўваюцца ўстаноўленым законам, але сваім жыццём пераўзыходзяць іх. [...] Адным словам, хрысціяне так жывуць у свеце, як душа жыве ў целе”.*

Першы раздзел выставы, прысвечаны Палесціне часоў Хрыста, расказвае пра тагачасны габрэйскі народ, выбраны Богам прыладай Яго пранікнення ў свет. Гаворка йдзе не толькі пра сведчанні першых крокаў хрысціянства, але таксама пра гістарычныя дадзеныя, звязаныя з эпохай Хрыста і першых хрысціянскіх абшчынаў. Бог выбраў канкрэтны народ, канкрэтны час, канкрэтную традыцыю. Цяпер мы ўсё больш даведваемся пра канкрэтных людзей, з якімі сустракаўся Езус. Так, у апошнія дзесяцігоддзі знойдзены асуары (сасуды, у якіх габрэі хавалі нябожчыкаў), што належалі сям'і першасвятара Кайяфы і Аляксандру, сыну кірынэйца, які дапамагаў Хрысту несці крыж на Галгофу (гл. Мк 15, 21). А ў 1961г. у Рыме была адкрыта пліта з надпісам: “Понцій Пілат, прэфект Юдэі”. Сёння гэта яшчэ адзін доказ існавання гістарычнай асобы Понція Пілата.



Аднымі з найбольш важных (і нават сенсацыйных) экспанатаў выставы сталі папірусы, знойдзеныя ў Кумранскіх пячорах. Сярод іх – ужо знакамітыя папірусы 7Q5, датаваныя не пазней за 50г. н.ч., якія ўяўляюць сабой урывак з Евангелля ад Марка 6,52-53. Гэта знаходка стала найважнейшым аргументам, што абвяргае папулярную асабліва ў савецкай гістарычнай навуцы тэорыю “міфалагічнасці” асобы Хрыста. Дадзеныя папірусы выразна сведчаць: Евангеллі былі напісаны так рана, што міфалагізацыя апісаных у іх падзей проста немагчымая. Такія высновы пацвярджаюцца іншымі даследаваннямі, напрыклад, лінгвістычнымі.








Хрысціянства “рвалася” ў свет. Незвычайны запал, энергія кіравалі першымі хрысціянамі. Апосталы разышліся па свеце, каб прапаведаваць імя Хрыста (пра чатыры вандраванні Паўла расказвае другі раздзел выставы). Яны стваралі абшчыны (кайнонія), якія былі дасканалымі брацтвамі людзей. Слова “кайнонія” дакладна характарызуе саборны характар ранняга хрысціянства. Кожная хрысціянская абшчына, нават самая маленькая, была свядомая ў сваёй прыналежнасці да Касцёла і прадстаўляла сабою ўвесь Касцёл. Нарадзіўся новы народ, Божы, які быў адметны не этнічным характарам, але жыццём у Хрысце.

Хрысціянскія абшчыны ўзнікалі па ўсёй Рымскай імперыі сярод шматлікіх народаў, культур, разнастайных рэлігійных сістэм, чые элементы часта змешваліся ў адну лучнасць абрадаў і вераванняў. Ужо ў першыя стагоддзі свайго існавання хрысціянства выявіла дзіўную здольнасць “пранікаць” у культуру і суіснаваць побач з іншымі рэлігіямі. Гэтаму садзейнічала своеасаблівае разуменне свету, якое склалася ў першых хрысціянаў. Паняцце сусвету (айкумэна) вельмі хутка стала змяшчаць не толькі ўсю населеную зямлю, але і бачанне Валадарства Хрыста, якое ахоплівае ўвесь свет, усе часы, усе сферы існавання чалавека. Хрысціянства выявіла сінкрэтычную цярпімасць да грэка-раманскай культуры і адначасова ўспрыняло і ўзвысіла каштоўнасць усяго насамрэч добрага, праўдзівага, справядлівага. Ужо тут выразна праявіліся вытокі хрысціянскіх прынцыпаў інкультурацыі і экуменізму. Хрысціяне не сталі штучна ствараць новай рэальнасці. Яны засталіся дзецьмі свайго часу, народу, носьбітамі ўласцівых ім традыцый і менталітэту. Але яны ўсведамлялі сваё Боскае сыноўства, дзякуючы чаму ўсё, чым яны валодалі, магло стаць пранікнутым Святым Духам. Паганскія сімвалы набылі новы



змест, старыя традыцыі сталі славіць адзінага Бога. Цікава было пабачыць на выставе раннія выявы хрысціянскіх сімвалаў Аранты, рыбака, Добрага Пастыра, карані якіх ляжаць у паганскім мінулым грэка-рымскай культуры і вераванняў.

Але адначасна хрысціянства стварала новыя каштоўнасці, уласную традыцыю. Можна ўпэўнена казаць пра існаванне ўжо ў Іст. традыцыі малітвы, што было зафіксавана ў Дзідахэ.

Вера хрысціянаў першых стагоддзяў не абмяжоўвалася абшчынным жыццём. Прыкладам у гэтым стаў сам Бог, які сваім дасканалым уцелаўленнем асвяціў чалавечую прыроду. Таму вера стала закваскай жыцця ва ўсёй яго паўнаце: сям'я першых хрысціянаў – гэта хрысціянская сям'я, традыцыі – хрысціянскія традыцыі, праца – гэта хрысціянская адказнасць за вынікі сваёй дзейнасці. Перад абліччам паганскіх уладароў-тыранаў хрысціяне станавіліся мучанікамі і вызнаўцамі веры. Смерць ужо не пужала іх, бо яна – пачатак новага жыцця ў непасрэдным адзінстве з Хрыстом. Прынцып “жыць у Хрысце кожную хвіліну” стаў нормай для першых хрысціянаў.

Экспазіцыя выставы завяршалася выдатнымі словамі Ньюмана: *“Хрысціянства – гэта жывая ісціна. [...] Канешне, у яго ёсць свае карані ў слаўным мінулым, але моц ягоная – гэта моц існая”.*

Наведвальніку выставы няцяжка было заўважыць няспынную пераемнасць сучаснага хрысціянства, яго традыцый з апостальскімі часамі. Інкультурацыя і экуменізм нарадзіліся не сёння. Яны былі само сабой зразумелымі прынцыпамі для хрысціянаў першых стагоддзяў. Нашы папярэднікі з далёкіх ужо часоў Хрыста і апосталаў вучаць нас сёння напаўняць асабістае, сямейнае, грамадскае жыццё вераю і Духам Святым. Жыццё дзяржавы, культура, сацыяльныя адносіны таксама патрабуюць Хрыста, які можа напоўніць новым зместам, новым сэнсам тое, што сёння



здаецца нам варожым альбо састарэлым.

**Ігар ІВАНОЎ**



# АХВЯРАВАННЕ ПАНСКАЕ

У кожнай парафіі ёсць людзі, якія нават у буднія дні ахвотна ідуць у касцёл, каб памаліцца там і ўдзельнічаць у Святой Імшы. Гэтыя пабожныя жанчыны і мужчыны слушна лічаць, што малітва ў касцёле — найлепшы пачатак альбо заканчэнне дня. Падобны звычай быў таксама і ў Ерузалеме. Калі Марыя прынесла Езуса ў святыню, каб ахвяраваць Яго Пану Богу, там ужо быў старац Сімяон, які ўсё сваё доўгае жыццё чакаў прышэсця Збавіцеля.

За пабожнасць і цярплівасць Сімяон быў узнагароджаны. Яму было дадзена шчасце ўзяць на рукі маленькага Езуса. Тады ён і прамовіў прарочыя словы, што Пан Езус, як святло, якое асвеціць усе народы. Сказаў таксама, што не ўсе прымуць тое святло; будуць такія, што стануць пагарджаць ім. З тае прычыны шмат давядзецца выцерпець Марыі...

На памятку гэтага здарэння ў свята Ахвяравання Панскага хрысціяне пасвячаюць свечкі — грамніцы. Запаленая грамнічная свечка нагадвае нам Езуса, за якім мы ідзем як вандроўнікі, што ўначы, каб не заблудзіць, заўсёды ідуць туды, дзе ёсць святло.

***Кс. З.М.***







***Шаноўныя чытачы! З вашых лістоў, а таксама з вусных водгукаў на публікацыі ў часопісе "Ave Maria", мы адчулі, што цікавяць вас найбольш матэрыялы, якія непасрэдна датычаць пытанняў каталіцкай веры, яе практыкавання ў паўсядзённым жыцці. Улічваючы гэта, наша рэдакцыя вырашыла распачаць цыкл публікацый, прысвечаных Дэкалогу, г.зн. 10-ці Божым запаведзям — таму падмурку, на якім угрунтавана хрысціянская вера. Захаванне кожнай з 10-ці запаведзяў — неабходная ўмова трываласці гэтага падмурку. Менавіта таму важна не толькі памятаць запаведзі, але і глыбока іх разумець, каб кіравацца імі ў сваім жыцці.***

***Спадзяемся, што дапаможа нам у гэтым карысная і цікавая кніга польскага святара і тэолага з Кракава Эдварда Станека "З клопатам пра сумленне".***

***Асоба гэтага аўтара многім з вас вядомая па публікацыях у часопісе "Наша вера", дзе друкуецца ягоная кніга "Шэсць праўдаў веры".***

***Кнігу "З клопатам пра сумленне" склалі нядзельныя казанні кс.Э.Станека ў касцёле сясцёр Феліцыянак у Кракаве.***

***Пішучы ўступнае слова для паўторнага выдання тэксту гэтых казанняў, кс.Э.Станек звярнуў увагу на з'яўленне новай небяспечнай ерасі, "якая прапаведуе абагаўленне сумлення. Для многіх людзей сумленне становіцца больш высокаю нормаю, чым Божае права, заключанае ў Дэкалогу. Гэтае абагаўленне сумлення патрэбна для сітуацыйнай этыкі, якая ўсімі спосабамі імкнецца завалодаць сэрцамі сучасных людзей.***

***Сумленне — гэта самая блізкая, але не самая высокая норма маральнасці. Больш таго, само сумленне як найніжэйшы суд справядлівасці імем Дэкалогу будзе судзіць сам Бог. Многія лічаць, што Бог будзе судзіць іх паводле іх жа сумлення, не дадаючы пры тым: "наколькі яно з'яўляецца праведным". Калі сумленне па іх віне няправеднае, г.зн. не згарманізаванае з Дэкалогам, то на парозе вечнасці яны панясуць адказнасць не толькі за дрэнныя ўчынкі, за якія самі апраўдваліся, але і за знішчэнне сумлення альбо за брак клопату пра яго праведнасць. Тут мы закранаем самую важную праблему нашага пакалення. Калі не ўдасца абараніць сумленне перад гэтаю небяспечнаю ерассю ў грамадскім маштабе, то трэба зрабіць гэта ва ўласным сэрцы. Сучасны свет патрабуе сведкаў праведнага сумлення".***

***Заканчваючы прадмову, аўтар заўважае: "Няма рэцэпта для жыцця. Ёсць указаны шлях. Трэба яго прайсці. А які зрабіць крок, у канкрэтны момант вырашае сам чалавек, што ідзе гэтым шляхам. Ён таксама бярэ на сябе поўную адказнасць за выбар і яго наступствы. Мэтаю казанняў было паказаць хараство і вартасць Божага шляху жыцця і небяспечных пастак, якія на ім сустракаюцца. Я хацеў перасцерагчы ад фальшывых крокаў і іх наступстваў".***

***Застаецца пажадаць чытачам уважлівага прачытання гэтых мудрых старонак ксяндза Э.Станека, каб тая святарская перасцярога дапамагла таксама і ўсім нам на гэтым цяжкім жыццёвым шляху.***

## *ПЕРШАЯ ЗАПАВЕДЗЬ*

# Я — Пан, Бог твой

Пастаянна ходзім, працуем, спім і нават грэшым на вачах у Бога, які ўсё бачыць, чуе, ведае, які ўвесь час нас стварае, падтрымлівае, дапамагае нам. Мы знаходзімся і жывем у Яго далонях, але рэдка заўважаем гэта. Часам мінаюць месяцы і цэлыя гады, а мы пра гэту блізкую прысутнасць Бога не памятаем. Нават калі звяртаемся да Яго словамі малітвы, не заўсёды памятаем пра Яго позірк, скіраваны на нас, не адчуваем рукі Бога, якая нас падтрымлівае, не заўважаем Айца, які нас любіць. Часцей за ўсё мы гаворым і думаем пра Бога, які вякі таму назад стварыў свет, які ў старажытнасці размаўляў з Абрагамам і Майсеем, які дваццаць стагоддзяў назад спаслаў Свайго Сына.

Тым часам першыя словы Дэкалогу заклікаюць пастаянна памятаць аб прыналежнасці да Бога. "Я — Пан, Бог твой", г.зн. не Абрагама, Ісака, Якуба, але твой. Той, які цябе стварыў, які цябе любіць і збаўляе. Пан Бог не хоча, каб мы захапляліся Ім як Айцом усіх людзей, хоча, каб мы бачылі ў Ім уласнага Айца. Ён не хоча, каб мы гаварылі пра Яго любоў да ўсіх людзей, але каб мы адчулі, што Ён нас любіць.

Можна дакладна ведаць Біблію, можна шмат ведаць пра Бога, з якім размаўлялі Давід, Самуэль, Ярэмія, св.Павел і іншыя, але з гэтага яшчэ не вынікае, што мы ведаем нашага Бога. Гэта пастаянна чужы Бог — Бог Давіда, Самуэля, Паўла...

Бог аб'яўляецца як Крыніца Жывой Вады, і можна гаварыць пра Яго, абапіраючыся на аповеды тых, што пілі з гэтае Крыніцы, але ў такім выпадку гэта


Гара Сінай

заўсёды будзе гаворка пра чужога Бога. Аднак, калі мы падыдзем да гэтай Крыніцы і самі зачарпнем з яе вады, пазнаючы яе смак і каштоўнасць, тады гэта будзе сустрэча з уласным Богам.

Бог аб'яўляецца як Агонь, і мы можам гаварыць пра Яго, спасылаючыся на сведчанні тых, хто пры гэтым Агні абагрэўся. Але гэта заўсёды будзе гаворка пра чужога Бога. Аднак, калі мы самі падыдзем і адчуем яго цяпло, тады спазнаем свайго Бога.

Першыя словы Дэкалогу заклікаюць шукаць асабістай сустрэчы з Богам Жывым, шукаць сустрэчы з Яго позіркам, з дакрананнем Яго рукі, каб перамовіцца з Ім словам сам-на-сам. Пры такіх адносінах мы становімся перад якойсьці вялікаю таямніцаю, якая абуджае ў нас, з аднаго боку, прагу сустрэчы і пазнання яе багацця, а, з другога, — страх перад чымсьці невядомым. Несумненна адно: месцам сустрэчы з таямніцаю Бога з'яўляецца наша сэрца. Сапраўдны Бог, недаступны для вачэй і вушэй, аб'яўляецца ў сэрцы, і толькі там можна Яго сустрэць.

Трэба дакладна прачытаць першыя словы Дэкалогу, бо яны з'яўляюцца ключом да правільнага зразумення наступных запаведзяў. Хто сапраўды прагне сустрэчы з Жывым Богам як Богам уласным, а не чужым, той з Яго вуснаў пачуе далейшыя запаведзі. Таму Ён скажа: Майго Імя не вымаўляй надарэмна, захавай святы характар нядзелі, любі сваю маці і бацьку... З гэтага часу Дэкалог ужо будзе не зборам важных законаў, перададзеных Майсеем, але жывым, актуальным заклікам уласнага Бога. Выкананне такога закліку будзе для нас не цяжарам, а цудоўным і канкрэтным заданнем, вызначаным для нас Богам.

**Выбавіцель з дому нявол**і

...Сучасны чалавек — гэта чалавек разгублены, бо стаў ён нявольнікам — альбо іншых людзей альбо сябе самога. У гэтай разгубленасці і асамочанасці, у гэтай бездапаможнасці ён чакае кагосьці, хто б вывеў яго з таго "дому няволі". Дастаткова паразмаўляць з рознымі людзьмі, каб убачыць, да якой ступені ўсе мы разгубленыя...

Вось я размаўляю з доктарам, для якога найвышэйшая норма — гэта дырэктывы сучаснай медыцыны. Калі ўказваю яму на несумленнасць ягоных паводзінаў, то ён адказвае, што "сучасная медыцына дазваляе гэта". Няважна, аказваецца, што права Божае забараняе, важна, што медыцына дазваляе.

У дыскусіі з маладым выхавацелем пытаю, навошта вучыць ілгаць свайго выхаванца. У адказ чую тое ж самае: "Сучасная педагогіка дазваляе гэта". Найвышэйшаю нормаю для яго з'яўляецца не права Божае, а дырэктывы сучаснай педагогікі.

Усхваляваная дзяўчына ў адказ на пытанне, навошта зрабіла аборт, сказала: "Бацькі выгналі б мяне з дому". Думка сям'і важнейшая для яе, чым захаванне Божага права.

Колькі памылак робіць чалавецтва і не хоча даверыцца Богу...

Хрысціянін кожную пачутую думку павінен ацэньваць паводле Божага права, бо адзіным знаўцам жыцця ёсць Бог і толькі Бог. Усе спецыялісты гэтага свету робяць памылкі.

Адзіны спецыяліст, які ва ўсёй паўнаце ведае чалавечае жыццё, — гэта Бог, бо Ён ведае наша будучае. Мудрасць чалавека заснавана на даверы Богу. Не людскім меркаванням, не спецыялістам у розных галінах ведаў, але менавіта Богу... Уся драма разгубленых людзей сённяшняга свету ў тым, што яны не пачулі ў сваім сэрцы гэтага першага закліку: "Я — Пан, твой Бог, які вывеў цябе з дому няволі".

Сама сустрэча з Богам — гэта момант ацалення, момант ратунку з "дому няволі", з "дому аблуды". Дэкалог для хрысціяніна распачынаецца ад вызнання Бога: "Я — Пан, твой Бог і твой Айцец, які вывеў цябе з дому няволі, каб давесці да свайго дому". Колькі ж у гэтым вызнанні шчасця!

Стварыцель і Суддзя свету, сама Мудрасць, Дабрыня, Хараство, Усёведны і Усемагутны Бог — мой Айцец. Сустрэча з ім на аснове любові Айца да дзіцяці, дзіцяці да Айца можа перамяніць жыццё. Знікае "дом няволі", "дом аблуды", "дом самоты". Ніколі не застаюся адзінокім. Бог — мой Айцец, Ён са мною. Ён — мой дом.

Мудрасць чалавека ва ўменні прызнаць Бога, даверыцца Яму і палюбіць Яго як Айца. Пры такой сустрэчы чалавек ужо не вызначае, што для яго дабро, а што зло, што павінен рабіць, а чаго пазбягаць, бо гэта вырашае Бог. Адзін Ён дасканала ведае, што добра, а што дрэнна. Адзін Ён дакладна ведае, як трэба прайсці праз жыццё, каб не змарнаваць ніводнай яго гадзіны. Любячы Айцец, клапоцячыся пра наша шчасце, дае нам свае айцоўскія заўвагі. Ёсць іх дзесяць. Яны былі заключаны ў запаведзі і ўказваюць нам шлях нашага жыцця. Яны накрэслены ў сумленні кожнага чалавека, а для грамадства ў форме публічнага права былі запісаны Майсеем на гары Сінай на каменных табліцах. З таго часу ніхто не зможа апраўдацца, што іх не ведае.

Давер да Бога — гэта знак мудрасці чалавека і фундамент паслухмянасці Яго праву. Паслухмянасць Богу сведчыць як пра ступень даверу, так і пра глыбіню мудрасці.

Калі ж хтосьці намагаецца абмінуць запаведзі, каб пра іх не ведаць, каб апраўдацца, каб ісці сваімі ўласнымі сцежкамі, ігнаруючы заўвагі самога Бога, той заўсёды паступае неразумна. Бо ставіць уласную "мудрасць" над мудрасцю Бога — гэта глупства, і інакш таго назваць нельга.

Не варта таксама дыскутаваць з людзьмі няверуючымі наконт каштоўнасці запаведзяў Дэкалогу. Бо разуменне запаведзяў залежыць ад прыняцця сэрцам гэтага першага вызнання Бога: "Я — Пан, твой Бог". Гэта ключ да адкрыцця багацця ўсіх заўвагаў Бога. Дыскусія з няверуючымі аб каштоўнасці Дэкалогу падобна да размовы са сляпым пра колеры, г.зн. з'яўляецца чыстым непаразуменнем. Не распачынайма такіх дыскусій, а зрабем усё, што ў нашых сілах, каб у даверы да Бога адкрыць усё багацце мудрасці чалавека, і тады жыццё наша будзе самым цудоўным аргументам на карысць Божых запаведзяў.

**Сучасныя бажкі**

Кожны, хто не верыць у Бога, хто не прызнае Яго як найвышэйшую каштоўнасць, той, хочучы таго альбо не, сам абагаўляе адну са створаных рэчаў, робячы яе ў сваім свеце найвышэйшаю каштоўнасцю. Гэта і ёсць бажок. Ён можа змяняцца. Бо па меры таго, як чалавек атрымлівае тое, аб чым марыў, рэч перастае быць для яго бажком, і ён сягае па наступную. Для маладога хлопца такім бажком можа быць, напрыклад, веласіпед, а калі яго ўжо атрымае, пачынае марыць пра матацыкл альбо машыну. З другога боку, гэтыя бажкі талерантныя і той самы чалавек можа ўшаноўваць не аднаго, а некалькі бажкоў. Бажок — гэта тая каштоўнасць, якой мы ў дадзены момант падпарадкоўваем сваё жыццё. Заўсёды так бывае, што гэтая каштоўнасць кіруе намі, а не мы ёю, хоць вельмі рэдка тое заўважаем, а яшчэ радзей бываем здольныя ў тым прызнацца.

Цяжка даць поўны спіс сучасных бажкоў, зрэшты, хто ведае, ці ўдалося б пад ім падвесці рысу. Аднак для прыкладу паспрабуем назваць некаторых з найбольш папулярных бажкоў сённяшняга свету.

**Грошы.** Шмат сучасных людзей жыве, служачы толькі багаццю. Гэта іх бог. За грошы яны гатовы аддаць усё разам з сваёю годнасцю, вераю, душою. Бажок гэты бязлітасны. Ён часта разбівае сем'і, з-за яго плачуць асірацелыя дзеці, ён разбурае сяброўскія сувязі, а сваіх паклоннікаў ператварае ў глухіх да людскіх патрэбаў хцівых шэльмаў. Грошы — гэта бажок нумар адзін нашага свету. Ён кіруе не толькі асобнымі людзьмі, але палітыкаю нашай планеты.

Культ гэтага бажка заснаваны на пастаянным накапленні, лічэнні, збіранні, павелічэнні багацця. Яго паклоннікі — гэта людзі, якім заўсёды замала, якія пастаянна дабіваюцца і прагнуць нечага большага. Але грошы — гэта слабы бажок. Яго вызнаўцы ні на момант не адчуваюць сябе бесклапотнымі, яны заўсёды занепакоеныя, абражаюць адзін аднаго і нават забіваюць. Гэта бажок, які жывіцца людскою хцівасцю і зайздрасцю, г.зн. пачуццямі, што вельмі часта гасцююць у людскіх сэрцах, а таму ён мае вельмі шмат прыхільнікаў. Езус ведаў чалавечую спакусу служыць гэтаму бажку. Ён заклікаў да ўбоства, а ад сваіх вучняў патрабаваў, каб не насілі ані торбы, ані кашаля.

**Насілле.** Гэта другі бажок нашага свету. Бажок страху. Яго слугі, узброеныя ўсімі даступнымі сродкамі, сеюць жах. Яны здольныя падпарадкаваць сабе закон, установы, грошы, сродкі інфармацыі — усё. Часцей за ўсё яны імкнуцца да ўлады, бо тады могуць з пазіцыі сілы змушаць іншых пакланяцца іх бажку — насіллю.

Ён мае шмат прыхільнікаў. Адны — яго слугі. Яны — альбо багатыя, узброеныя атамнымі ракета-

мі, кіруюць вялікімі ваеннымі парадамі, дэманструючы сілу, альбо бедныя, што хапаюцца за камень ці ляску.

Іншыя, а іх тысячы і мільёны, — гэта людзі запалоханыя, што б'юць паклоны гэтай усёўладнай апакаптычнай шэльме. Насілле падпарадкоўвае сабе часцей за ўсё культ іншых бажкоў — грошай, сексу, улады.

Езус ведаў сілу гэтага бажка і таму заклікаў вучняў, каб неслі спакой свету, ідучы да яго без сандаляў, басаНОЖ і без кія, каб не баяліся быць безабароннымі. Пры гэтым ясна зазначаў: "Пасылаю вас, як авечак паміж ваўкамі".



**Цела** з усімі яго страсцямі і жаданнямі, заўсёды ненасытнымі, што пастаянна шукаюць задавальнення. Гэтаму бажку служыць мода, восемдзесят працэнтаў кулінарнага мастацтва, начныя клубы, часта кіно і прэса. Не для аднаго чалавека мэтаю жыцця з'яўляецца пастаяннае напаўненне свайго жывата альбо сексуальнае задавальненне. Многія жывуць дзеля таго, каб узбудзіць голад цела, а калі рашаюцца на працоўныя высілкі, то для таго, каб зарабіць на спажыву для яго.

Бажок, які ў хуткім часе здолее знішчыць чалавека, апусціць значна ніжэй за жывёлу, калі яго не падпарадкаваць моцнай волі духу. Цела здольна апанаваць усё і разбурыць усе нормы маральнага і рэлігійнага жыцця. Паклоннікаў гэтага бажка можна сустрэць на кожным кроку. Іх мільёны. Адны яго саромеюцца, іншыя ім ганарацца, усе, аднак, замест таго, каб кіраваць целам, згаджаюцца, каб яно кіравала імі. Езус ведаў сілу гэтага бажка, ведаў, як цяжка яго паклоннікам вырвацца з гэтага "дому няволі", таму заклікаў вучняў да адвагі: "Калі рука твая спакушае цябе, адрэж яе. Бо лепш табе без рукі ўвайсці ў валадарства, чым, маючы рукі, быць укінутым у пекла".

**Алкаголь.** *Для* мільёнаў сучасных людзей найвышэйшая каштоўнасць, за якую яны аддадуць апошні грош і апошні грам свае годнасці — гэта кілішак. Бажок, які разбэшчвае чалавека, адбірае ў сваіх прыхільнікаў грошы, здароўе, розум, шчасце — усё. Гэта бажок, які мае сваіх "апосталаў", што намаўляюць альбо змушаюць выпіць, тэрарызуюць тых, хто побач. Бажок, які нічога не дае, а толькі знішчае. Ён ловіць людзей слабых, нясталых, неразумных. Разумны ніколі не паклоніцца яму. Ён — усюды і скрозь мае сваіх вызнаўцаў. Страшны бажок, які штодзённа прагне людскіх ахвяраў. Няма ніводнага дня, каб у краіне хтосьці не аддаў жыцця гэтаму бажку, не стаў яго ахвяраю. Смяротныя атручванні алкаголем, аварыі на дарогах па віне п'яных вадзіцеляў, выпадкі на працы, забойствы...

Дэманічнае боства, што пастаянна здабывае ўсё новых і новых вызнаўцаў, прыхільнікаў, якіх ператварае ў сваіх нявольнікаў, імкнучыся да іх цалкавітага знішчэння. Страшнае боства гэтага свету.

Бажкоў такіх ёсць шмат. Імі могуць быць тэлевізар, спорт, аўтамабіль, празмерны клопат пра ўласнае здароўе, службовае становішча і шмат, шмат іншых зямных каштоўнасцяў. Гэта тыя "чужыя багі", ад якіх засцерагае Бог у першай запаведзі Дэкалогу: "Не май чужых багоў перада Мною".

Сутнасць Божага наказу заключаецца ў словах "перада Мною". Бо Пан Бог не адмаўляе каштоўнасці таго, што добрае, але нагадвае, што толькі тады часовыя каштоўнасці могуць быць выкарыстаны адпаведным чынам, калі не будуць ставіцца "перад Ім". Можна іх цаніць, можна іх выкарыстоўваць, можна імі абагачацца, але толькі тады, калі чалавек ані на момант не забывае, што найвышэйшаю каштоўнасцю над усімі астатнімі з'яўляецца сам Бог. Калі чалавек забудзе пра гэта і нейкую са згаданых тут зямных каштоўнасцяў паставіць перад Богам альбо нароўні з Ім, то тады Ён аддасць яго ў ахвяру гэтаму бажку, і лёс чалавека будзе прадвызначаны.

Часам здараецца, што вызнаўцы бажкоў гэтага свету, г.зн. грошай, насілля, цела, алкаголю і іншых, прыходзяць у каталіцкі касцёл, мяркуючы, што можна прымірыць службу гэтым бажкам з культам Адзінага Бога. Аднак такое меркаванне — вялікае непаразуменне, бо ўмоваю сустрэчы з Богам з'яўляецца падпарадкаванне Яму ўсіх іншых каштоўнасцяў: "Не будзеш мець чужых багоў перада Мною".

**Кожны служыць свайму Богу**

Вяртаючыся да тэмы сучасных бажкоў, хачу звярнуць увагу на тое, што ўскладняе разуменне першай запаведзі Дэкалогу. Справа ў тым, што пра сучасных бажкоў ніхто не думае і не гаворыць у рэлігійным сэнсе... Але з гэтага зусім не вынікае, што чалавек па сваёй сутнасці нерэлігійны. Наадварот. Чалавек не здолее жыць, не аддаючы свайго жыцця ў ахвяру якомусь богу. Калі няма аніякага, то ўчыніць бажка з атэізму, а яго паслядоўнікаў будзе лічыць святымі.

Гэтаксама ёсць і ў дачыненні да спорту. Для мільёнаў людзей сучаснага свету гэты бажок найважнейшы. А колькі людскіх ахвяраў збірае ён з году ў год?..

Ці ж самаадрачэнне, якога спорт вымагае ад спартсменаў, часта ў сто разоў не цяжэйшае за патрабаванні, якія Евангелле ставіць перад вызнаўцамі Хрыста? Але сёння ніхто не гаворыць пра спорт як пра рэлігію і пра культ спорту як пра культ бажка.

Не гаворыцца пра тое па многіх прычынах, а найчасцей, каб не выдаць уласнай слабасці ў адносінах да стольkіх бажкоў. Гэта бажок кіруе намі, а не мы ім. Сорамна ў тым прызнацца.





Хрысціянін павінен заўважаць каштоўнасці і ў сіле, якой служыць войска, і ў спорце, які збірае мільёны людзей, і ў багацці, і ў сродках масавай інфармацыі, і г.д., але павінен таксама памятаць, што існуе небяспека іх абагаўлення.

З другога боку, час ад часу варта зірнуць на гэтых паклоннікаў бажкоў з рэлігійнага пункту гледжання. Тады нашмат лягчэй будзе ўбачыць хараство і каштоўнасць сапраўднай рэлігіі.

**Святатацтва**

Грахом супраць першай Божай запаведзі з'яўляецца не толькі ідалапаклонства, г.зн. адданне сэрца якойсьці з часовых каштоўнасцяў, але і святатацтва. Справа тут датычыць неадпаведнага альбо дрэннага выкарыстання таго, што з'яўляецца святым, альбо свядомага знішчэння таго, што было аддадзена Богу.

З шэрагу святатацкіх учынкаў назавем толькі некаторыя, стараючыся ўбачыць усю глыбіню іх зла, якая заключаецца ў тым, што б'юць яны ў сам фундамент рэлігійнага жыцця.

**Крадзеж у касцёле.** Святыня — гэта дом Божы, і ўсё, што ў ёй (ці ў ім) знаходзіцца, было набыта на ахвяраванні людзей, а значыць, за грошы, прысвечаныя Богу. Калі хто-кольвечы пасягае на воты, сярэбраныя кароны ў марыйных санктуарыях, старажытныя фігуры альбо каштоўныя абразы, на грошы ў скарбонках альбо літургічны посуд, той пасягае на рэчы, што належаць Богу і абкрадае Яго самога. Гэта з'яўляецца яўным ігнараваннем Бога, уварваннем у Яго дом, і таму не трэба здзіўляцца, што даволі часта віноўнікаў такіх крадзяжоў рана ці позна сурова карае жыццё.

**Разбурэнне святыні,** ператварэнне яе ў амбар альбо склад, выкарыстанне ў чыста свецкіх мэтах. Адносіны да святыні выключна як да музейнага аб'екту, да канцэртнай залы, а значыць, да будынку, прызначанага для кантэмпляцыі твораў мастацтва, а не малітвы, — справа вельмі небяспечная і блізкая да святатацтва. Бо лёгка можна пачаць абагаўляць культуру, а гэта ўжо не што іншае, як яшчэ адзін бажок сучаснага свету. Таму біскупы таксама нясуць адказнасць за кожную імпрэзу ў святыні, асабліва, калі яна не носіць відавочна рэлігійнага характару.

Езус вельмі рэзка выступіў у абарону святасці Дома Айца, які ёсць домам малітвы. Няма ў Евангеллі іншага моманту, дзе Езус запалаў бы такім вялікім гневам, як тады, калі выкідваў святататнікаў са святыні.

**Знявага асобаў, якія прысвяцілі сябе Богу.** Ударыць святара альбо законніцу — святатацтва. Гэта не толькі грэх супраць пятай Божай запаведзі, але і дадатковы грэх святатацтва. Тое ж датычыць і паўтарэння абмоваў, неабгрунтаваных плётак пра святароў альбо законы. Гэта не толькі ачарненне, але і падрыў рэлігійнага аўтарытэту, разбурэнне фундаменту ўзаемнага даверу. Можна гаварыць праўду, калі яна была на сто працэнтаў праверана тым, хто гаворыць, і калі яе пераказ неабходны. І ў той жа час трэба пазбягаць паўтарэння таго, што мэтанакіравана распаўсюджваецца як зараза, каб нішчыць давер да духоўных асобаў. Варта пры гэтым зазначыць, што той, хто дрэнна гаворыць пра святароў, небяспечным абагульненнем прыпісвае грэх аднаго адразу ўсім. Часцей за ўсё такія людзі не здольныя сказаць нічога добрага пра святароў. Абгрунтаваныя прэтэнзіі да ксяндза выказваюцца касцёльнай уладзе, біскупу, а не распаўсюджваюцца сярод людзей. Неабгрунтаваны закід у бок святара — заўсёды ёсць цяжкі грэх і мае для чалавека сур'ёзныя наступствы, бо сам Бог выступае яго абаронцам. Ён пакарае святара, калі той робіць дрэнна, але і Ён сам будзе абараняць яго ад ворагаў.

**Знявага Найсвяцейшага Сакрамэнту** — адзін з самых цяжкіх грахоў, бо абражае непасрэдна Езуса, прысутнага ў постацях хлеба і віна. Найбольш грубая форма гэтай знявагі — уламанне ў табэрнакулюм і знішчэнне альбо раскідванне кансэкраванага Хлеба. Такі ўчынак вымагае, каб уся рэлігійная супольнасць кампенсавала гэты грэх. Адбываецца гэта часцей за ўсё, дзякуючы шматгадзіннай адарацыі, спалучанай са споведдзю і Св.Камуніяй. Паколькі знявага мела публічны характар, то і кампенсацыя за яе павінна мець публічны характар.

Больш частаю разнавіднасцю святатацтва з'яўляецца нягоднае, у стане цяжкага грэху прыняцце Св.Камуніі. Калі б людзі ведалі, якое цяжкае няшчасце яны наклікаюць на сябе, ніколі б таго не рабілі. Св.Павел гаворыць: "Хто нягодна спажывае Цела Панскае і п'е Яго Кроў, асуджэнне сваё спажывае і п'е". Робіцца гэта найчасцей пад уплывам публічнай думкі. Такія выпадкі могуць мець месца пры хрышчэнні, пры першай Св.Камуніі, на Св.Імшы ў часе шлюбу альбо пахавання. Бо тады "выпадае" прыступіць да Св.Камуніі, бо ўсе блізкія глядзяць і калі б хто не прыступіў, то трапіў бы ў чорны спіс. Аднак кожны павінен памятаць, што Бога трэба баяцца больш, чым людзей, і ў тысячу разоў лепш не прыступіць да Св.Камуніі, чым прыняць яе па-святатацку.

Святатацтва таксама мае месца тады, калі чалавек затойвае грахі ў часе споведзі. Тут віноўнікам зла выступае фальшывы сорам. Чалавек не мае адвагі прызнацца ў здзейсненым зле, забываючы, што тым самым учыняе новы, больш цяжкі грэх, у якім будзе яшчэ цяжэй прызнацца. Утойванне граху нічога не вырашыць, а толькі яшчэ больш ублытае чалавека ў нерат зла.

Няцяжка заўважыць, што кожнае святатацтва — гэта яшчэ адзін грэх, далучаны да злога чыну. Крадзеж — грэх, крадзеж у касцёле, апроч таго, яшчэ і святатацтва.

Хлусня — грэх, хлусня ў часе споведзі — яшчэ і святатацтва. Знішчэнне хлеба — грэх, знішчэнне кансэкраванага Хлеба — святатацтва. Абмова — грэх, абмова святара — дадаткова яшчэ і святатацтва.

Чуйнасць сумлення, каб не ўчыніць святатацтва, каб кампенсаваць кожнае заўважанае святатацтва, — гэта сведчанне веры і правільна наладжанага рэлігійнага жыцця. Там, дзе з'яўляецца святатацтва, з'яўляецца першы яўны знак адмірання веры.

*Працяг у наступных нумарах.*

***Пераклад Крыстыны ЛЯЛЬКО***

# Законная Супольнасць Сясцёр Святой Сям'і з Бардо



Заснавальнік Супольнасці Сясцёр Святой Сям'і а.Пётр Ноўай.

Гэты закон быў заснаваны ў 1820г. у Францыі. Яго заснавальнікам быў **а.Пётр Ноўай** (27.10.1793 – 8.02.1861), святар з Бардо, чалавек надзвычай пабожны, які клапаціўся аб пашырэнні і ўмацаванні веры. Гэту каштоўную ласку абвяшчэння Добрай Навіны, якая была ўдзелена айцу-заснавальніку, працягваюць сваёю паслугаю законныя сёстры, прысутныя ў 23 краінах на чатырох кантынентах свету. Улічваючы патрэбы Касцёла, законніцы гэтай супольнасці працуюць медсёстрамі ў шпіталях і прытулках, выхавацелькамі дзяцей і моладзі, займаюцца featured рознабаковаю парафіяльнаю працаю (служаць катэхеткамі, закрыстыянкамі, арганісткамі), асаблівую ўвагу яны ўдзяляюць апецы ўбогіх. Ужо пяць гадоў сёстры Святой Сям'і з Бардо дапамагаюць Касцёлу на Беларусі. Прынцып іх супольнасці – жыць, наследуючы Святую Сям'ю з Назарэта, якая з'яўляецца дасканалым узорам любові і еднасці, г.зн. штодзённа прабываць з Езусам, Марыяй і Юзафам, перажываць іх радасць як уласную.

***Калі ты, шаноўная чытачка, хочаш:***
– як Марыя, несці Езуса да людзей;
– як Юзаф, аддаваць Яму свае рукі;
– як Езус, з радасцю несці свой крыж, –
***сёстры запрашаюць цябе ў сваю супольнасць:***

**04-611 Warszawa, ul.Poprzeczna 20,**
**Siostry Świętej Rodziny z Bordeaux**
*Адрас на Беларусі:* **Стаўбцоўскі р-н,**
**в.Новы Свержань, вул.Мірская, 20**





# Боская пячаць на самым пачатку шляху

## Цудоўнае благаславенне



Нядзеля. 3 лютага 1822 года. Адвячорак, набліжаецца пятая гадзіна. Сёстры і сіраты кляштару па вуліцы Мазарын у Бардо сабраліся ў сваёй сціплай капліцы са святаром Дэлёртам перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам. Распачынаецца Эўхарыстычнае набажэнства. Нечакана капліца напаўняецца бляскам незвычайнага святла: такое ўражанне, што манстранцыя заззяла якімісь цудоўнымі прамянямі. Адначасова знікае снежная бель гостыі, а на яе месцы з'яўляецца постаць трыццацігадовага мужчыны; ён рухаецца, рэагуе, жыве... Гэта – Пан Езус! У Яго прамяністае аблічча і светлыя хвалістыя валасы; Ён прыгожы, атулены бліскучым святлом, праз плячо ў Яго перакінута яркачырвоная стужка, прымацаваная двума цудоўнымі дыяментамі.



Напачатку гэты вобраз умяшчаецца як бы ў крузе манстранцыі, аднак потым перакрочвае яе межы, так, нібы яна была для Яго зацесная. Хрыстус скіроўвае свой позірк то ўправа, то ўлева, разпораз схіляючыся да сабраных у капліцы людзей. Левую руку Ён трымае на сэрцы, а праваю благаславіць.

Пажылы святар не верыць сваім вачам: ён звяртаецца да міністранта, пытаючы, ці той таксама штосьці бачыць. Перапалоханы хлопец ківае галавою ў знак згоды. Святар кажа яму паведаміць пра гэта сястры-кіраўніцы...

Усе трынаццаць сабраных у капліцы асобаў вельмі глыбока і ўзрушана перажываюць гэтую незвычайную прысутнасць Эўхарыстычнага Пана, які ў гэты момант перакрочыў межы сакрамэнтальнага знаку...

Адспяваны ўжо гімн *Tantum ergo,* значыць, настаў час благаслаўлення Найсвяцейшым Сакрамэнтам. Але гэтак, як Майсей перад абліччам палаючага куста, так і ксёндз Дэлёрт адчуў унутраны імпульс не набліжацца: ГЭТА ЗЯМЛЯ СВЯТАЯ! Так, тут не толькі зямля святая, але прысутны Сам Найсвяцейшы, бо ксёндз Яго пастаянна бачыць!.. Праходзіць ужо каля дваццаці мінут, а Ён надалей – амаль што асязальны.

Урэшце, падтрыманы Божаю моцаю, святар кленчыць, бярэ ў рукі манстранцыю і благаслаўляе. Цяпер ён бачыць постаць Хрыста як бы з іншага боку. Гэта благаслаўляе Сам Пан!

Незвычайнае набажэнства заканчваецца. Святар ставіць манстранцыю на алтар і бачыць ужо толькі снежна-белую Гостыю: Езус зноў схаваўся ў цень эўхарыстычнага маўчання...

Цуд, як Божая пячаць, назаўсёды пазначыў жыццё і свядомасць супольнасці: яны бачылі Пана.

*Паводле матэрыялаў, дасланых сёстрамі Супольнасці Святой Сям'і з Бардо*

# СВЯТЫ БЛАЖЭЙ

Імя святога Блажэя вядома католікам дзякуючы таму благаслаўленню, якое ўдзяляецца на яго свята. У часе благаслаўлення святар, трымаючы ў руках дзве скрыжаваныя свечкі, моліцца: "Няхай Бог праз заступніцтва святога мучаніка Блажэя вызваліць цябе ад усялякіх хваробаў горла і ад усялякага зла".

Адносна мала вядома пра жыццё святога Блажэя. У пераказе захаваліся толькі найважнейшыя моманты яго жыцця і асабліва яго мучаніцтва.

Святы Блажэй быў лекарам. Жыў у другой палове III стагоддзя, у Себасце (Арменія). Быў шчырым хрысціянінам і належаў да абшчыны вернікаў, якая ў тыя часы часта пераследавалася. Ён, багаты і паважаны чалавек, меў магчымасць сустракацца з беднымі, занядбанымі людзьмі і розным чынам дапамагаць ім. За прыкладныя, цнатлівыя паводзіны яго паважалі ва ўсіх грамадскіх колах.

Калі ў Себасце памёр біскуп, вочы ўсіх скіраваліся на Блажэя: людзі хацелі бачыць яго на чале хрысціянскай абшчыны. На сваім новым адказным месцы біскупа Блажэй стараўся з усіх сіл, каб умацаваць хрысціянаў і весці іх да святога жыцця ў веры.

Калі кесар Канстанцін Вялікі атрымаў перамогу над Ліцыніем, пераможаны пачаў са злосцю і нянавісцю пераследаваць хрысціянаў, каб супрацьстаяць Канстанціну, які добра і спагадна ставіўся да хрысціянаў. Асобныя абшчыны вельмі шмат выцерпелі. Ворагі веры найперш імкнуліся знішчыць біскупаў і святароў, бо мелі надзею такім чынам перамагчы хрысціянаў. Па просьбе людзей біскуп Блажэй пакінуў горад і нейкі час хаваўся ў адзінокай скальнай пячоры, пасылаючы адтуль сваім вернікам словы адвагі і суцяшэння. Аднак намеснік Аргіцалай знайшоў біскупа, і Блажэй быў пастаўлены перад судом.

Напачатку намеснік хацеў па-добраму скончыць гэтую справу. Калі ж не дабіўся свайго, пачаў пагражаць і шалець ад злосці. Але і гэта не дало чаканага выніку — Блажэй быў нязломны. Намеснік загадаў кінуць яго ў вязніцу, каб скарыць ягоны дух. Аднак няволя дала біскупу магчымасць навярнуць да праўдзівай веры ўсіх, хто разам з ім знаходзіўся ў вязніцы. Вернікі прыносілі да яго дзяцей і прыводзілі розных няшчасных. Блажэй суцяшаў іх, багаслаўляў, аздараўляў. Да яго прывялі хлопца, які праглынуў асціну. Ён ужо быў блізкі да смерці, бо мог задыхнуцца. Біскуп яго пабагаславіў, і хлопец адразу ж выздаравеў.

Аргіцалай тройчы спрабаваў перамагчы трывалага ў веры біскупа, але ўсе ягоныя намаганні былі дарэмнымі. Блажэя білі розгамі і палкамі, жалезным грэбенем адрывалі кавалкі цела. На наступны дзень здзекі ўзмацніліся. Урэшце суддзя загадаў забіць ужо цалкам замучанага Блажэя, з цела якога бруілася кроў. Яму адсеклі мечам галаву.

Гісторыя святога Блажэя і ўшанаванне яго памяці сталі адразу ж вельмі папулярныя ў краінах Усходу, але на Захадзе ягоны культ распаўсюдзіўся з часоў крыжовых паходаў. Гэты святы стаў вельмі папулярны, асабліва сярод немцаў. З тае прычыны, што святы Блажэй дапамагае пры хваробах горла, ён быў залічаны да святых, якія дапамагаюць у патрэбах.

Святы Блажэй з'яўляецца апекуном лекараў. На старых абразах яго можна ўбачыць з дзвюма свечкамі ў руках альбо з жалезным грэбенем у руцэ, які нагадвае пра мучэнні святога. Ёсць абразы, на якіх пакутнік трымае рукі на галаве і вуснах хлопца, што кленчыць перад ім.

Святы Блажэй быў замучаны ў 316 годзе. Касцёл адзначае яго свята ў дзень яго смерці — 3 лютага.



*Пераклад*
**Ірэны ЗАДАРОЖНАЙ**





## Святы Максіміліян Марыя Кольбэ



# САПРАЎДНАЯ ЛЮБОЎ

Няма на свеце істоты, якая б палюбіла Бога больш, чым Беззаганная. Таму ўсю сваю любоў мы аддаем Ёй, у Ёй і праз Яе — Пану Езусу, а ў Ім і праз Яго — Богу Айцу. У сіле волі заключаецца сутнасць любові. Аднак калі б мы сказалі, што з'яўляемся вачыма волі, то гэта не было б натуральна. Чалавек ёсць чалавек. Ён мае пачуцці. Уся чалавечая сутнасць павінна гарманічна існаваць з любоўю. Калі б хтосьці аддаў Беззаганнай волю, а пачуцці не, то слушна мог бы сумнявацца ў сапраўднасці сваёй любові.

Мы павінны імкнуцца да штораз больш канкрэтнае любові — жыццёвай. Пачуцці павінны ўмацоўваць слабую волю, бо яна не хоча перамагчы сябе, калі гаворка ідзе пра ахвяры.

Тая душа, якая напраўду любіць Беззаганную, бачыць, як патрэбны ёй фігуркі Беззаганнай. Праходзячы паўз фігурку Беззаганнай, такі чалавек не толькі зніме шапку, але напраўду ўшануе Яе. Праз увесь дзень, уначы, калі не зможа заснуць, альбо калі прачнецца, будзе ўзбуджаць у сабе ўзвышаныя акты ўшанавання. Можа гэткая душа дазволіць пачуццёвасць і запытаць: "Мама мая, ці любіш Ты мяне?" Ніхто гэтага не бачыць і не чуе, а Беззаганная як жа аднаўляе і асвяжае душу знутры!

Што я павінен рабіць, каб любіць Яе, — гэта будзе далейшым пытаннем. Колькі ж тады святла ўліецца ў душу! Не думайце, што толькі мы будзем тады гаварыць. Яна таксама будзе прамаўляць да нас, бо Яна ёсць у нашай душы.

Будзем жа прасіць у Яе тае вялікай любові, так палымянай любові, каб мы праз Яе ў любові Божай не ведалі аніякіх межаў. Калі Яна сама завалодае нашым сэрцам, мы станем тады раўнадушнымі да тых рэчаў, якія прамінаюць, — прыкрых альбо прыемных, да спраў — лёгкіх альбо цяжкіх. Усё прамінаецца — застаецца любоў.

Любі Беззаганную ўсім сэрцам, часта звяртайся да Яе ўзвышанымі словамі, хоць бы толькі ў думках, а Яна навучыць Цябе аддлюбоўваць Пану Езусу бязмежнай любоўю за Яго любоў, выяўленую на крыжы, і ў Найсвяцейшым Сакрамэнце Алтара.

Калі будзе такая любоў да Беззаганнай, то будзе і ўзаемная любоў. Усе недахопы і непамыслоты будуць тады нас яднаць, бо праз іх мы даем сабе магчымасць выказваць любоў да Беззаганнай. Гэткая сувязь вельмі моцная, бо калі душы набліжаюцца да Беззаганнай, яны тым самым узаемна збліжаюцца паміж сабою. Тады рознасць характараў і слабасць выраўноўваюцца.

Узаемная любоў засноўваецца не на тым, каб ніхто ніколі не зрабіў нам аніякай прыкрасці, але на тым, каб мы імкнуліся не рабіць іншым прыкрасці і навучыліся адразу ж і цалкам прабачаць усё, што прынясе нам непрыемнасць. Гэтая ўзаемная цярплівасць і складае сутнасць узаемнае любові. Святая Тэрэса ад Дзіцятка Езус піша: "Я зразумела, як не дасканала люблю сваіх законных сясцёр; о, не так палюбіў іх Пан Езус! Разумею цяпер, што сапраўдная любоў заснавана на цярплівасці да заганаў і памылак нашых бліжніх; на тым, каб не дзівіцца з іх недасканаласці, а рабіцца яшчэ больш высакародным ад кожнае, найменшае аб'яўленае дабрадзейнасці. Асабліва зразумела, што любоў ніколі не павінна быць на дне сэрца, бо: "Ніхто, запаліўшы свечку, не ставіць яе ў патаемным месцы ці пад судзіну, але на свечнік, каб тыя, хто ўваходзяць, бачылі святло" (Лк 11, 33). На маю думку, гэтая евангельская паходня азначае любоў, якая павінна яснець і весяліць не толькі нашых найдаражэйшых, але і ўсіх, хто ёсць у доме". І далей піша: "Дарагі мой Езу, ведаю, што нічога падобнага не загадваеш мне выконваць: лепш за мяне ведаеш мае слабасці і маю недасканаласць; ведаеш, што я ніколі не здолею палюбіць маіх сясцёр так, як Ты любіш іх, калі толькі Ты сам не будзеш любіць іх ува мне і праз мяне Ты хочаш засведчыць мне гэтую вялікую ласку і таму даў мне новы Твой наказ. О, які ж дарагі ён мне, бо дае гарантыю, што Ты хочаш праз мяне любіць усіх тых, каго загадаў любіць".

Самаахвярнасць узаемнай любові павінна быць як мага больш аддаленай. Не на тым заснавана любоў, што мы любім тых, хто нясе нам радасць, але на тым, калі цярпліва зносім прыкрасці і непрыемнасці, калі плаціць дабром за зло — вось дзе сапраўдная любоў. Узвысіць яе да такой ступені, каб цалкам прабачаць усялякія крыўды і не чуць сябе пакрыўджаным у найменшай ступені. Гэта да такой ступені важна, што Пан Езус наказвае нам маліцца: "І адпусці нам грахі нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым". Гэта і ёсць дух усіх хрысціянаў. Звернем жа ўвагу на тое, каб не засталося нічога не прабачанага. Гэта вельмі важна, бо тым самым мы і любім Пана Бога. Чынім так не таму, што ніхто не зрабіў нам нічога злога, але зносім прыкрасці дзеля Беззаганнай.

І любім не таму, што наш бліжні сімпатычны, ветлівы, багаты, уплывовы, а хоць бы і таму, што ўдзячны нам. Задужа нізкія гэта прычыны. Сапраўдная любоў узносіцца над стварэннем і заглыбляецца ў Бога. У Ім, для Яго і праз Яго яна любіць усіх: добрых і злых, сяброў і ворагаў, да ўсіх працягвае зычлівую руку, за ўсіх моліцца, за ўсіх цярпіць, усім жадае дабра, для ўсіх прагне шчасця, бо так хоча Бог!..

Калі вашай спадарожніцай па жыцці будзе любоў і калі жыць будзеце ва ўзаемнай любові, то ўжо тут, на зямлі, будзеце адчуваць нябесную радасць.

Усё прамінецца, вера і надзея прамінуцца, застанецца любоў. З любоўю мы ўвойдзем у вечнае жыццё і ў любові будзем радавацца ў небе з Беззаганнай.

*Пераклад І.Ж.*

ПАЭЗІЯ

Алесь ТРАФІМЕНКА

### СОН ЗЯМЛІ

Праз байніцы халодных муроў,
Нямых сведкаў славы былой,
З пасівелых вяршынь курганоў,
Параслі што духмянай травой,
Бачны рэшткі далёкіх часоў,
Чутны крокі адвечных дарог,
Хор забытых гучыць галасоў,
Праслаўляючы дні перамог.
І крыжы ля старых бальшакоў,
Нібы сымбалі краю стаяць.
Пачарнелыя сьведкі вякоў
На зямлю, што заснула, глядзяць.
Сніць яна аксамітны мурог
І крыніцы халодны блакіт.
Лес ад чэрвеньскай спёкі знямог,
Адбіваецца ў плыні ракі.
Але толькі з'яднае зямлю
Сонца з небам, і край ажыве,
І не змоўкнуць ужо салаўю,
Покуль срэбра не згасне ў траве.
Нібы здані, пачнуць кажаны
Уначы паміж зорак мільгаць.
Наганяючы сон на званы,
Што застыла ў званіцах маўчаць.
Але веру я, прыйдзе той дзень,
Здрыганецца абшар ад званоў:
Зноў паклічуць да храму людзей,
Каб прачнуліся ўрэшце ад сноў.

### ПУСТЫ ХРАМ

Над Дзвіною стаіць нямы звон
Зрабаванай святыні званоў,
І глядзіць смутак з цёмных вакон,
У чаканні вяртання сыноў.
Помняць хвалі рачныя той дзень,
Агарнуў Божы храм калі змрок.
Зачынілі яго ад людзей,
На людскіх душах цяжкі замок.
І анёл пад тым цяжкім замком
Глядзіць сумна на наш грэшны свет,
Што, як вязень, скаваны грахом,
Не знаходзіць ратунку ад бед.
І з вачэй яго слёзы цякуць,
Ад адчаю людзей і нуды,
Што сляпыя сляпых і вядуць,
Ды не ведаюць самі куды.
Што прыйсці не схацелі на баль,
Для таго,каб скарынку знайсці,
Што шукаюць у веры мараль,
Забываючы ў храм увайсці.
Калі сонца запаліць усход,
Дакранецца халоднай сцяны,
Я укленчу каля сініх вод,
Каб вярнуліся з цемры яны.

### ГОРАД СПІЦЬ

Уначы спіць знясілены горад
Мітуснёю сваіх жыхароў.
Як бязмежнае зыркае мора,
Зіхаціць у агнях ліхтароў.

Спяць дамы і пустыя касцёлы
Над прыціхлай начною ракой.
Толькі светлыя ў небе анёлы
Сцерагуць яго сон і спакой.

Спачывае брук стомленых пляцаў,
Ад спякоты гарачага сонца.
Па пакоях прыгожых палацаў
Вартавыя шыбуюць бясконца.

Бясклапотна спяць людзі ў кватэрах,
І пра шчасце забыўшы, і гора.
Абаронены шчыраю верай,
Спіць да раніцы сцішаны горад.










# БЛАГАСЛАЎЛЕННІ СЯМ'І

**Бацькі і сем'і ўсяго свету, дазвольце сабе сказаць: Бог заклікае нас да святасці... Ён вельмі вас любіць і прагне вашага шчасця, але хоча, каб вы ўмелі заўсёды спалучаць вернасць са шчасцем, бо адно без другога існаваць не можа. Не дапусціце, каб у вашы хатнія цяпельцы ўвайшла ментальнасць геданізму, прагі поспехаў і эгаізму. Будзьце вялікадушныя з Богам... Няхай дух Святой Сям'і з Назарэта пануе ва ўсіх хрысціянскіх сем'ях!**

*З гамілії Яна Паўла II у часе нядзельнай Святой Імшы на Другім Сусветным спатканні сем'яў у Рыо-дэ-Жанэйра.*

Благаслаўлёная сям'я, якая кленчыць на малітву і слухае Слова Божае, бо ў ёй прысутнічае Пан, а вера ў ёй – заўсёды жывая.

Благаслаўлёная сям'я, у якой шануецца святы дзень, бо жыве яна ў дастатку і будзе святкаваць у небе.

Благаслаўлёная сям'я, у якую не маюць доступу праклёны, парнаграфія і недарэчныя забавы.

Благаслаўлёная сям'я, у якой муж з жонкаю жывуць у гармоніі любові і вернасці, бо з'яўляецца яна знакам Божай любові.

Благаслаўлёная сям'я, у якой пануюць згода, шчырыя размовы і ўзаемны давер, бо пануе ў ёй мір.

Благаслаўлёная сям'я, у якой, у радасці і ў цярпенні, даецца жыццём сведчанне веры, бо ашчасліўіць яе Пан.

Благаслаўлёная сям'я, у якой дзеці з'яўляюца радасцю для бацькоў, а бацькі даюць ім сведчанне Хрыстова, бо становіцца яна святыняю спакою і дабрадзейнасці.

Благаслаўлёная сям'я, у якой у патрэбную хвіліну клічуць святара да хворых, бо ў ёй у хваробе знаходзяць палёгку, а смерць адкрывае дарогу да неба.

Благаслаўлёная сям'я, якая велікадушна спяшае на дапамогу іншым, бо становіцца яна знакам любові і Божай прысутнасці ў свеце.

*З часопіса "Milizia Mariana" №8, 1997г.*

***У КОЛЕ СЯМ'І***

***Мы ўсё больш і больш з болем назіраем, як сям'я ў нашым грамадстве губляе сваю трываласць. Многія сем'і распадаюцца, многія з тых, што не распаліся, "прыцярпеліся да свайго ярма", многія муж з жонкай жывуць пад адной страхой толькі дзеля сваіх дзяцей. А ўбачыць у касцёле ўсю сям'ю і ўвогуле вялікая рэдкасць. Усё гэта навяло нас на думку адкрыць у часопісе "Ave Maria" новую рубрыку "У коле сям'і", у якой мы разам будзем шукаць адказы на складаныя пытанні жыцця: выхавання дзяцей, адносінаў паміж мужам і жонкай, бацькамі і дзецьмі і г.д.***

***Мы запрашаем святароў пісаць у нашу новую рубрыку, бо на большасць складаных пытанняў, якія штодня паўстаюць перад намі, адказ у духу каталіцкай веры зможа даць толькі святар.***

***У рубрыцы "У коле сям'і" мы спадзяемся з вашым удзелам весці даверлівую гутарку пра нашыя радасці, праблемы, беды і надзеі. Рэдакцыя, у сваю чаргу, абяцае, што калі ўзнікне такая патрэба, то па просьбе аўтараў іхнія імёны і прозвішчы будуць захаваны ў тайне. І яшчэ: калі вы, нашыя паважаныя чытачы, будзеце дасылаць лісты ў гэту рубрыку, то на канверце рабіце, калі ласка, паметку: "У коле сям'і".***





Госць рубрыкі "У коле сям'і" — айцец сэрцанін **Збігнеў БОЯР**

# СТУКАЦЦА Ў КОЖНАЕ СЭРЦА

***Упэўнена, што старонняму чалавеку, які ў свята трапіць у Пастаўскі касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны, кінецца ў вочы, як шмат там дзяцей. Прынамсі, я, пабыўшы на ранішняй Святой Імшы, была вельмі ўражаная: дзіцячая працэсія з ліхтарыкамі ў некалькі радоў займала ўвесь касцёл! Падумалася: можа, тут і няма тых праблем, якія на кожным кроку сустрэнеш у іншых парафіях? З гэтага пытання мы і пачалі нашу размову з пробашчам касцёла, айцом Збігневам Боярам.***

— Праблем у Пастаўскім касцёле, думаю, не менш, чым у іншых. Так, у нас шмат дзяцей — гэта кідаецца ў вочы прыезджаму чалавеку. Але калі пільней прыгледзішся, то нельга не заўважыць і таго, што дзяцей шмат, а моладзі — не надта. І прычына ў тым, што большасць дзяцей на катэхізацыю да Першай Споведзі прыводзяць бабулі. Мамы з татамі, на жаль, ніяк не могуць знайсці для гэтага часу. А бабулі, давёўшы дзіця да Першай Споведзі, супакойваюцца — выканалі свой абавязак. І калі пачынаеш гэтых дзяцей зноў запрашаць на ўрокі рэлігіі, то яны здзіўляюцца: "А навошта? Я ж ужо быў у Першай Споведзі". Альбо сустрэнеш і такое: хтосьці з падлеткаў прыступіў да сакрамэнту Бежмавання ў нейкім іншым касцёле. Пытаю: "Хто цябе рыхтаваў да гэтага сакрамэнту?" Здзіўляецца: "А што, трэба было рыхтавацца?" "Добра, — кажу, — ты прыняў гэты сакрамэнт. А ці ведаеш, што цяпер ты павінен умацоўваць сваю веру, перадаваць і абараняць яе?" Пацiскае плячыма. І дзіўна, але бабулі таксама добра гэтага не разумеюць. Часам яны больш клапоцяцца пра механічнае выкананне нейкага абраду, чым пра яго сутнасць.

***— Але зразумець падобную сітуацыю таксама можна. Бо вера на нашай зямлі ў асноўным захавалася сярод старэйшага пакалення. Бацькі ж тых самых дзяцей, што цяпер ідуць да Першай Споведзі, вельмі часта раўнадушныя да веры. А з бабуляў, як кажуць, што возьмеш? Калі яны ў іхнім веку стараюцца далучыць сваіх унукаў да Бога, то і за гэта ім дзякуй. А з другога боку (хоць, мабыць, і жорстка так казаць), тыя ж бабулі, якія цяпер клапоцяцца пра сваіх унукаў, усё ж дапусцілі, каб у душах іхніх уласных дзяцей пасялілася абыякавасць да веры.***

— Гэта спадчына ваяўнічага атэізму, які раскашаваў на гэтай зямлі. Але выпраўляць плады такой спадчыны трэба, калі мы хочам перамагчы многія праблемы духоўнага жыцця. Я ўжо, мабыць, надакучыў парафіянам сваім напамінам на гэты конт, але ўвесь час паўтараю: "Калі вы, давёўшы дзетак да Першай Споведзі, не будзеце потым клапаціцца пра іхні духоўны рост — у сям'і, у вёсцы, у адносінах паміж людзьмі, — то ўсе вы застаецеся ахрышчанымі атэістамі".

***— Сурова.***

— Але гэта праўда! Гэта праўда, якой бы яна ні была балючай! У праблеме адарванасці хлопца альбо дзяўчыны ў юначым узросце ад Касцёла тояцца многія і многія іншыя праблемы. Гэта і рост злачынстваў сярод падлеткаў і моладзі, і наркаманія, і прастытуцыя, і непавага маладых людзей да старэйшых, да сваіх бацькоў, зрэшты, да сваёй Радзімы. Вось у нашым касцёле адбываюцца цяпер сустрэчы моладзі, на якіх яна вывучае Евангелле, разважае над праўдамі веры, спявае хрысціянскія песні. Але на гэтыя спатканні ходзіць 20—25 чалавек. А дзе ўсе тыя, што за гэтыя гады прыступалі да Першай Споведзі? Штогод у нас прымаюць Першую Святую Камунію прыкладна 100 чалавек. Вось вам і карціна. Прааналізуеш яе і задумаешся: дзе ж тая моладзь, якая пару гадоў таму гэтак прыгожа, у белі прымала Езуса ў Сакрамэнце? Што думаюць пра гэта таты і мамы? Цяжка даведацца, таму што большасць татаў і мамаў таксама не бываюць у касцёле кожную нядзелю.

***— Айцец Збігнеў, але скажыце, якое ж тут выйсце?***

— Стукацца ў кожнае сэрца. Людзей сярэдняга пакалення таксама можна зразумець. Мне нярэдка кажуць: "Я ўжо згубіў свой час. Я не магу быць у касцёле разам з дзецьмі, вучыць тое ж, што і яны. Але мне цяжка знайсці агульную мову і з бацькамі". І гэта праўда. Ёсць пэўны разрыў паміж тымі, хто яшчэ жыве ў так званым польскім касцёле, і тымі, хто няхай сабе паволі, але ўсё ж уваходзіць у рымска-каталіцкі Касцёл. Зноў жа: савецкага народа ўжо няма, а беларускі яшчэ не замацаваў грунтоўна свой падмурак. На нашых сямейных спатканнях многія таты і мамы ўздыхаюць: "Трэба неяк вывучаць родную мову, бо ксёндз стараецца гаварыць па-беларуску, а мы самі не ўмеем". Праблема. І не такая малая, як некаму здася на першы погляд.

***— Дарэчы, не палічыце за камплімент, але беларускай моваі Вы ўжо валодаеце даволі прыстойна. Калі б Вашы парафіяне вывучалі яе гэткімі ж тэмпамі, то не даводзілася б Вам размаўляць з імі на розных мовах. Але дапусцім: мы добра ўсвядомілі прычыны нашых бедаў. Што далей? Як з імі змагацца?***

— На мой погляд, трэба ў парафіях ствараць розныя супольнасці, якія б лучылі дзяцей, моладзь, дарослых, сем'і. Вось пасылаем мы дзетак у летні лагер "Канікулы з Богам", які працуе ў Камаях, і бачым, як яны там ужо таму-сяму вучацца. Яны вучацца жыць, адпачываць, набірацца здароўя і не траціць, але павялічваць пры гэтым свой духоўны набытак.

Ёсць яшчэ ў свеце такі рух — факулярыйны, які нарадзіўся ў часе вайны ў Італіі. Ён увабраў у сябе вельмі прыгожыя правілы, якія дапамагаюць людзям не адасабляцца ад іншых у сваіх бедах, але, наадварот, — ісці да людзей. Ісці да людзей і ўзбагачаць іх сваім "я". Галоўны, так бы мовіць, прамень гэтага руху — еднасць паміж людзьмі ў духу Евангелля. Група моладзі з нашай парафіі таксама далучылася да гэтага руху. Сувязі ўжо наладжаны. Мы атрымліваем розную літаратуру, "Слова жыцця" і г.д.

***— Але гэта ў асноўным дзяўчаты. А хлопцы? Як, скажыце, зрабіць, каб у Касцёле былі, а не наведвалі яго час ад часу хлопцы, мужчыны?***

— Вельмі сур'ёзная праблема. У дзяцінстве ўсё прасцей — хлапчукі ахвотна ходзяць на рэлігійныя заняткі, служаць міністрантамі, удзельнічаюць у працэсіях, святах. У часе ж пераходнага ўзросту на іх вельмі моцна ўплывае сіла свету, якая часам нясе для іх вялікую небяспеку. У гэты час падлетак мацней, чым калі, цягнецца да сваіх равеснікаў, а яны, як ведаем, часта ўплываюць не лепшым чынам, у іх дзейнічае іншая шкала каштоўнасцяў. Вось і атрымліваецца: касцёл кажа адно, а равеснікі сцвярджаюць супрацьлеглае. А калі ўлічыць тыя "каштоўнасці", што нясуць маладым людзям тэлевізар, сучаснае кіно? Балюча, але часта падлетак выбірае шалёную музыку, яркую рэкламу, сумніўныя кінафільмы, тую тэорыю "лёгкага хлеба", якая пануе сярод сённяшняй моладзі. "Не крадзі? Але многія вунь крадуць і нажылі багацце. Не падманвай? Але многія толькі на ашуканстве трымаюцца і таксама не бедныя". Падобных "аргументаў" звальваецца на галаву падлетка вельмі шмат. А калі ў дадатак яшчэ тату з мамай усё роўна, што там творыцца ў хлапечай душы? Вось тады і робіцца выбар. І часта, на

жаль, не на карысць дабра.

Крыўдна бывае, калі ўспомніш, што ў свой час я з гэтымі самымі падлеткамі, якія цяпер шукаюць "лёгкага хлеба", далёкага ад навукі Касцёла, усё Евангелле прачытаў, тлумачыў ім кожную яго праўду, кожную прыпавесць, кожны ўчынак Езуса. Але нейк так атрымліваецца, што яны ўспрымаюць гэта як чарговую навуку, па якой трэба здаць экзамен, а потым зноў жыць па-свойму. Евангелле застаецца для іх прыгожым, цудоўным, але не тым, што трэба выконваць. Задужа вялікі адрыў паміж тым, што кажа ім у касцёле святар, сябар — у двары, бацька альбо маці — дома, настаўнікі — у школе. Калі б сям'я таго хлапчука альбо тае дзяўчыны жыла па Евангеллю, усё было б не так трагічна ў жыцці нашай моладзі.

***— Скажыце, калі ласка, а бываюць такія выпадкі, што пабегае-пабегае хлопец альбо дзяўчына дзесьці ўдалечыні ад Касцёла, пашукае лёгкага жыцця, а потым усё ж вернецца ў Касцёл?***

— Бываюць. Рэдка, але здараюцца. Аднак часта тое вяртанне ўжо зранена грахом. Лепш, чым у Евангеллі, пра такую праблему не скажаш: "Калі нячысты дух выйдзе з чалавека, то ходзіць па бязводных мясцінах, шукаючы супакою, і, не знаходзячы, кажа: "Вярнуся ў дом, адкуль выйшаў". І, прыйшоўшы, знаходзіць яго вымеценым і прыбраным; тады ідзе і бярэ з сабою сем іншых духаў, больш злых за яго, і, увайшоўшы, жывуць там. І бывае для чалавека таго апошняе горш за першае" (Лк 11, 24-26). Можна запытаць: калі ўсё так трагічна, то ці ёсць паратунак? Ёсць. Споведзь. Калі чалавек пасля свайго падзення па-сапраўднаму хоча падняцца, яму проста неабходна спачатку ачысціць сваю душу. На споведзі чалавек не прыкідваецца, не спіхвае свае віны на іншага. Вось тады яму і можна дапамагчы. Чалавек павінен адчуць Божую дабрыню ў адносінах да сябе. Як адчула яе некалі Марыя Магдалена альбо мытнік Мацвей.

***— Часам даводзіцца чуць, што самае цяжкае для святара — яго паслуга ў канфесіянале...***

— Вядома, гэта цяжка. Часам плачаш разам з тым чалавекам, часам чуеш сваю бездапаможнасць перад злом, якое апаноўвае людзьмі. Але менавіта ў канфесіянале святар можа найбольш дапамагчы чалавеку. І калі дапаможаш таму, хто ўжо стаяў на краі бездані, то і радасць, і ўзнагарода тады святару непараўнаныя ні з чым. Дзеля гэтага варта перажыць і боль, і непамыслоты — усё, з чым сустракаецца кожны святар.

***— Добра, дапусцім, хлопец альбо дзяўчына, перамогшы свой надлом, усё ж вяртаюцца ў Касцёл. Як утрымаць іх, як асцерагчы ад чарговых, яшчэ больш балючых падзенняў?***

— Зноў жа: вярнуся да таго, пра што ўжо казаў. Трэба, каб у парафіі былі асяродкі, супольнасці, якія прынялі б маладога чалавека такім, які ён ёсць. Трэба, каб было яму з кім папіць тут гарбаты, а не гарэлкі, пагаварыць аб прыгожых рэчах, а не аб брыдкіх, паіграць на гітары, паспяваць песні. І тады разам можна шукаць ідэал, які ёсць у Евангеллі.

Гэтаксама, як і маладыя сем'і, утварыўшы ў парафіі "Кола сямейнага касцёла", могуць знайсці вырашэнне ў ім самых розных сваіх праблем. Часта яны не падзеляцца імі з бацькамі, суседзямі, а вось тут, у сваім коле, яны не баяцца быць адкрытымі. У нашай парафіі ёсць два такія колы. Скажу шчыра: праца з імі забірае даволі шмат часу ў мяне, але шкадаваць яго не даводзіцца, бо гэта — не змарнаваны час.

***— Шчыра дзякую Вам, айцец Збігнеў, за гутарку і спадзяюся, што мы таксама не змарнавалі час, бо тыя вострыя, балючыя пытанні, закранутыя ў размове, непакояць шмат каго.***

*Гутарыла Ірына ЖАРНАСЕК*

**МАЛІТВА ДЗІЦЯЦІ ЗА СВАЮ СЯМ'Ю**

О Божа, Ойча ўсіх сем'яў,
учыні, каб і наша сям'я стала падобнаю
да Сям'і Езуса, у якой Ён рос;
каб і наш дом быў падобны
да Яго дома,
у якім усе будуць паважаць
і любіць адзін аднаго,
справядліва дзяліць паміж сабой
усё дабро.
Калі ж мы зайздросцім іншым,
не хочам дапамагаць іншым
і ўпарта стаім на сваім —
дапамажы нам, Пане,
зноў стаць добрымі адзін да аднаго.
Амэн.

**МАЛІТВА ДЗІЦЯЦІ ЗА СВАІХ РАВЕСНІКАЎ-СІРОТАЎ**

Дарагі Ойча!
Атулі, просім, асаблівай апекай
тых дзяцей,
якіх пакінулі іхнія таты і мамы.
Дапамагай ім. Няхай яны ведаюць,
што Ты любіш іх, што Ты заўсёды
побач з імі, каб суцяшаць
і мець у сваёй апецы.
Амэн.





*ВЕРА НА ШТОДЗЕНЬ*

# УСЁЙ СЯМ'ЁЙ УДЗЕЛЬНІЧАЕМ У СВЯТОЙ ІМШЫ

Другі Ватыканскі Сабор вучыць, што Эўхарыстыя — гэта "крыніца і вяршыня хрысціянскага жыцця". Аднак літургія Святой Імшы звычай прызначана для дарослых удзельнікаў і не дазваляе малым дзецям зразумець усю яе значнасць. І тады паўстае практычнае пытанне: "Ці павінны бацькі браць з сабой на Святую Імшу дзяцей?"

Мабыць, хтосьці лічыць, што лепш пакінуць дзіця дома пад надзейнай апекай, альбо, што бацькі павінны паасобку хадзіць у касцёл, каб адзін з іх мог заўсёды застацца дома з дзіцем. Ёсць тут свае "за" і "супраць". Калі вы ходзіце паасобку на Святую Імшу, то не маеце магчымасці супольна ўшаноўваць Бога і дзяліцца вашым сакрамэнтам сужэнства з супольнасцю. Да таго ж, калі пакінеце дзіця пад чужой апекай дома, яно можа адчуваць вялікую крыўду, бо вы ходзіце ў касцёл без яго.

**Святая Імша — досвед любові**

Калі ж вы вырашыце ўключыць сваё дзіця ў эўхарыстычнае спатканне, старайцеся абдарыць яго самымі лепшымі адчуваннямі і радасцю. Бо калі Святая Імша будзе для малога дзіцяці чымсьці незразумелым і сумным, то гэта можа абцяжарыць ягонае рэлігійнае развіццё.

Найбольшае, што можа перажыць дзіця ў касцёле, гэта любоў. Мы прыходзім справаваць Найсвяцейшую Ахвяру, каб дзякаваць Богу за Яго вялікую любоў. Вашае дзіця вучыцца Божай любові праз пазнанне вашай любові, якую бачыць і чуе. Гэтая любоў, якая заўсёды спадарожнічае вашаму дзіцяці, павінна быць вельмі выяўнай у касцёле.

Для многіх дзяцей, якія разам з бацькамі ходзяць у касцёл, Святая Імша азначае, што яны абавязаны ціха сядзець. У іх міжволі ўзнікае страх перад пакараннем, час ад часу іх пагрозліва штурхаюць, кідаюць на іх гнеўныя позіркі, а часам і за вуха пацягнуць. Тады няма чаго здзіўляцца, што дзіця, якое ўсё гэта спазнала, не мае ахвоты хадзіць у касцёл.

**Паглядзець вачыма дзіцяці**

Гэта не азначае, аднак, што малым можна рабіць у касцёле, што заўгодна: перашкаджаць бацькам, суседзям, іншым людзям маліцца. Дзяцей трэба навучыць, як яны павінны трымаць сябе на Святой Імшы. І зрабіць гэта трэба з любоўю, лагодна. Ёсць спосабы, каб зрабіць для дзіцяці наведанне касцёла вельмі важным перажываннем, да якога яно будзе цягнуцца.

Па-першае, не чакайце ад сваіх дзяцей паводзінаў, як у дарослых. Нельга патрабаваць ад іх працяглага стаяння на каленях альбо асаблівай увагі ў часе казання — ад пачатку і да канца. Паспрабуйце паставіць сябе на месца вашага дзіцяці. Малое, паколькі яно кленчыць, нікога не бачыць з-за лаўкі, а калі нават і сядзіць, то нічога не бачыць за плячыма дарослых. Апрача таго, дзіця можа баяцца застацца адно, калі вы ідзяце да Святой Камуніі. Таму трэба выбраць такое месца ў касцёле, каб вашае дзіця добра бачыла ўсё, што адбываецца на Імшы. Калі ж вы прысту-



паеце да Святой Камуніі, вазьміце з сабой дзіця. Няхай яно бачыць зблізку, як людзі прымаюць Езуса ў Эўхарыстыі. Гэта можа абудзіць у ім жаданне і самому хутчэй прыняць Святую Камунію.

Старайцеся, каб у часе Святой Імшы ў дзіцяці былі найлепшыя адчуванні. Дазвольце, каб у душы дзіцяці плыла любоў Хрыста. Калі дзіця становіцца неспакойным, прытуліце яго да сябе замест таго, каб гнеўна трэсці. Калі слухаеце казанне — пасадзіце дзіця на калені. Замест таго, каб крычаць на яго: "Сядзі ціха", прыкладзіце палец да вуснаў і нагадайце яму тым самым пра патрэбу цішыні. Ваша лагоднасць і спакойныя жэсты, безумоўна, падзейнічаюць лепш, чым гнеў.

У асаблівыя моманты скажыце дзіцяці: "Я мушу паслухаць тое, што кажа мне Пан Бог", альбо: "Цяпер я хачу паразмаўляць з Панам Богам". Вучыце дзяцей з дапамогай любові, а не страху.

**Як засяродзіць увагу дзіцяці**

Звяртайце ўвагу дзіцяці на тое, што мае рэлігійнае значэнне: святыя фігуркі, абразы, харугвы і г.д. Можаце на Імшу ўзяць для дзіцяці рэлігійную кніжку-размалёўку альбо дазвольце яму ўзяць з сабой у касцёл плюшавую цацку. У асобных выпадках тлумачце малому змест Евангелля і малітваў так, каб яно разумела сэнс пачутага.

Звяртайце ўвагу дзіцяці на найважнейшыя хвіліны Святой Імшы. Заахвочвайце адказаць "Амэн", спяваць "Алелюя", гаварыць асобныя кароткія малітвы. З любоўю перадайце яму знак спакою і вучыце пер345 казваць гэты знак іншым. Пасля Імшы абавязкова пахваліце дзіця за добрыя паводзіны, папракніце, але не сурова, за штосьці нядобрае.

**Дзіця — удзельнік супольнасці**

Можа, хтосьці лічыць, што, спрабуючы дапамагчы свайму дзіцяці па-сапраўднаму перажыць Святую Імшу, ён сам сябе абдзяляе, бо не мае магчымасці глыбока, напоўніцу перажыць набажэнства. Але ж давесці вашых дзяцей да Бога — гэта і ёсць вашае бацькоўскае пакліканне! Бог паклікаў вас стаць бацькам ці маці гэтага дзіцяці.

Памятайце таксама, што літургія — гэта супольная малітва, а не прыватная, а вашае дзіця — удзельнік супольнасці.

Можа здарыцца, што ў нейкі дзень малое не будзе рэагаваць на вашы старанні. Але паспрабуйце, прынамсі, дапамагчы яму ўсвядоміць, што ў яго няма права перашкаджаць камусьці маліцца. Калі ж усё-ткі паводзіны дзіцяці пераступаюць дапушчальныя нормы, а вашы намаганні дарэмныя, то варта падняцца і пайсці з касцёла. Але не адступіцца! Заўсёды трэба памятаць: мэта вашае выхаваўчае дзейнасці — паказаць дзіцяці вартасць літургіі. Калі на нядзельнай Святой Імшы дзіця будзе адчуваць любоў, то яно зробіць усё, каб заўсёды ў ёй удзельнічаць.

***Часопіс "Różaniec", № 9, 1996г.***
***З польскай мовы пераклала А.БАРТКЕВІЧ***



**ТРОШКІ ГУМАРУ**

Ён: — Ты кажаш, што табе сёння споўнілася 29 гадоў? Але ж тры гады таму ты казала тое ж самае?

Яна: — Правільна. Я не належу да тых зменлівых кабетаў, якія адзін раз кажуць адно, а другі — другое.

Малы хлопчык звяртаецца да суседзяў:

— Тата прасіў запытаць, ці не можаце вы пазычыць нам на гэты вечар магнітафон?

— Гэтак позна збіраецеся яшчэ танцаваць?

— Не, мы хочам спаць.

— Мая жонка ніколі не ляжа спаць раней, як у дзве гадзіны ночы. Ніяк не магу адвучыць яе ад гэтага.

— Што ж яна робіць так позна?

— Заўсёды чакае мяне.

— Будзеш мяне кахаць, нягледзячы на тое, што далёка ад'язджаю ад цябе?

— Вядома, мая дарагая! Чым далей ад'язджаеш, тым мацней кахаю цябе!

— Што б ты, кум, рабіў, каб на тваю жонку напаў звер?

— Нічога. Сам напаў — сам няхай і бароніцца.

Размаўляюць суседкі:

— Пані Рэня, пазыч мне качалку, калі ласка!

— Не магу. Я таксама свайго чалавека чакаю.

Ганка сварыцца на мужа, а потым роспачна гукае:

— І дзе толькі была мая галава, калі ты прасіў маёй рукі?

— На маім плячы, дарагая.





## Разам з Марыськай



*Дарагія дзеці!*

*Я вельмі рада, што вы разам са мною моліцеся Дзіцячы Ружанец. Шчыра дзякую ўсім, хто дасылае мне адказы на пытанні да таямніцаў, малюнкі, расказвае пра сябе. Калі ж хто яшчэ не далучыўся да нашага Ружанца – не бяда. Вазьміце нумары Ave Maria 10, 11-12 за 1997 год, прачытайце заданне і дасылайце нам адказы. Але не забывайце пры гэтым памаліцца тую таямнічку, над якой разважаем.*

*Нагадваю, што першыя вынікі конкурсу мы падвядзем пасля 5 таямніцаў Радаснай часткі Ружанца. Пераможцаў чакаюць падарункі, а ўсіх астатніх удзельнікаў – прыгожыя абразкі.*

*Чакаю вашых лістоў! Толькі прашу: той, хто ў папярэдніх лістах нічога не напісаў пра сябе, – зрабіце гэта цяпер.*

**Частка першая — радасная**
**Таямніца трэцяя**

# Нараджэнне Езуса Хрыста






**Пытанні да разважанняў**

**1.** У якім горадзе нарадзіўся Езус Хрыстус?

**2.** "Хвала Богу на вышынях, а на зямлі спакой людзям добрай волі!". Хто спяваў гэтую прыгожую песню ў тую ноч?

**3.** Хто прыйшоў пакланіцца Божаму Дзіцяці?

**4.** Чаму злосны цар Гэрад загадаў тады забіць усіх дзяцей да трохгадовага ўзросту?

**5.** Напішыце, калі ласка, хоць бы адзін куплет вашай любімай калядней песні.

*А цяпер давайце ўсе разам памолімся гэтую таямніцу ружанца.*

О Езу, Валадар сусвету! Ты прыйшоў да людзей, каб ашчасліціць іх. Але з першых хвілінаў жыцця на гэтай зямлі Ты спазнаў людскую няўдзячнасць, холад і бядоту. Людзі не прынялі Юзафа з Марыяй, якія неслі ім Збавіцеля. Аднак Юзаф з Марыяй не раззлаваліся на людзей, але радаваліся, бо Ты быў з імі.

Будзем жа і мы вучыцца заўсёды радавацца Езусу, калі нават нас незаслужана пакрыўдзяць. Разам з пастушкамі аддадзім Езусу паклон і прынясем Яму свае дары: думкі, пачуцці, сэрцы, волю, словы і добрыя ўчынкі.

***Ойча наш...***
***10 Вітай, Марыя...***
***Хвала Айцу...***

О мой Езу! Прабач нам нашыя грахі, захавай нас ад агню пякельнага, правядзі ўсе душы да неба і асабліва памажы тым, каму найбольш патрэбна Твая міласэрнасць.

*Сябры! Чакаю вашых лістоў з адказамі, малюнкамі, прапановамі. Бывайце! Да наступнай таямніцы, якую мы разам з вамі будзем маліцца ў наступным нумары.*

***Марыська***



# "Я ГАТОВА АДДАЦЬ ЖЫЦЦЁ..."

*Там за лесам-борам,*
*На апецы Боскай,*
*Як нядолі сведка,*
*Села наша вёска.*
*Янка Купала*

Недалёка ад Лагойска, у казачна прыгожым месцы, размясцілася ўтульная вёска Корань. Летам яна патанае ў пышнай зеляніне лясоў, якія нібыта малахітавым поясам апяразваюць яе. Тут і нарадзілася ў 1920-м годзе Марыя Іосіфаўна Жукоўская. І хаця ўжо шмат гадоў яна жыве ў Мінску, сэрца ўсё роўна не адпускае з Кораня.

"Напэўна ў цэлым свеце няма прыгажэйшых мясцін за гэтыя, – гаворыць жанчына. – Да таго ж, наша Лагойшчына славіцца не толькі сваім навакольным хараством, але і тым, што тут калісьці жыў наш знакаміты паэт Янка Купала".

Бацькі паэта не мелі свае зямлі і арандавалі яе ў розных месцах на Лагойшчыне. Бацька паэта Дамінік Ануфрыевіч Луцэвіч пахаваны ў Корані каля мясцовага касцёла, які сваю гісторыю вядзе з 1605 года. Там жа свой вечны спачын знайшлі родны брат Я.Купалы Казік і дзве яго сястры – Сабіна і Гэля.

Марыя Жукоўская яшчэ маленькай дзяўчынкай памятае сябе ў мясцовым драўляным касцёле, які насіў імя Святога Антонія Падуанскага. Божая святыня была для дзяўчынкі другім домам — яна вельмі часта там бывала і, да таго ж, бацька быў закрыстыянам і старшынёй парафіяльнага камітэта. З маленства Марыя Іосіфаўна памятае, як Святы Антоні ўшаноўваўся ў кожнай сям'і, кожным католікам.

Яна памятае легенду, якой каранеўцы вельмі ганарацца. Было гэта вельмі даўно. Неяк везлі праз Корань у Хатавічы абраз Святога Антонія. Раптам каля касцёла коні сталі, як укопаныя. Сяляне, не ведаючы, што рабіць, пабеглі да ксяндза. Той угледзеў у гэтым знак Божы і параіў пакінуць абраз у Каранеўскім касцёле. Вось так апекуном мясцовай святыні стаў Антоні Падуанскі.

Усё жыццё ў сэрцы Марыі Іосіфаўны захоўваецца любоў і бязмерная пашана да вялікага святога цудатворцы. А перадусім, канешне, любоў і пашана да Усемагутнага Бога. Гэтыя святыя пачуцці верніцы прайшлі вельмі цяжкія выпрабаванні ў часе камуністычнага рэжыму. І, дзякуй Богу, не зніклі. Наадварот, загартаваліся і ўзмацніліся.

У 1933 годзе быў арыштаваны бацька пані Марыі Іосіф Міхайлавіч Жукоўскі. Ён не толькі не выракся Бога ў тыя страшныя сталінскія часы, але нават не хаваў свае веры. У хаце па-ранейшаму заставаліся абразы. Толькі Святое Пісанне, што ляжала на палічцы, схавалі ад чужых вачэй у шафу. І вельмі часта, асабліва ў доўгія зімовыя вечары, сям'я слухала Слова Божае, якое чытаў Іосіф Міхайлавіч. Утаіць гэтага не ўдалося. Расплатаю за веру стала турма. Спачатку сядзеў у Мінску, а потым яго павезлі кудысьці на поўнач. За Волагдай, у чыстым полі высадзілі і з надзеяй, што ён загіне, загадалі ісці 100 кіламетраў пешшу да населенага пункта, якога, як потым высветлілася, не існавала. Паблукаўшы па тых мясцінах, напаткаў добрых людзей, якія дапамаглі чым змаглі і параілі ісці назад, на радзіму. Пехатою прайшоў больш за дзве тысячы кіламетраў, адмарозіў ногі. Змучаны і хворы вярнуўся дадому. Але сям'і свае не знайшоў. Яе выслалі ў горад Хароўск Валагодскай вобласці. Адпачыўшы ў знаёмых, Іосіф Міхайлавіч пайшоў шукаць жонку і дзяцей. Праз нейкі час знайшоў іх, але шчасце было нядоўгім. У 1937 годзе яго зноў арыштавалі і неўзабаве расстралялі.

Каранеўскі касцёл Святога Антонія ў 1943 годзе ў часе адступлення спалілі партызаны. Сведкі расказвалі, што згарэў ён, нібыта сярнічка. Вернікі ледзьве паспелі вынесці абраз Святога Антонія і некаторыя касцельныя рэчы. Але ўсё роўна з таго мала што ўцалела. Абраз Святога цудатворцы, напрыклад, спаліў адзін з мясцовых актывістаў. Залаты посуд таксама разрабавалі тыя, у чыіх сэрцах не было нічога Божага.

Пасля вайны на могілках, якія размяшчаліся вакол касцёла, быў пабудаваны клуб. Пра тое, што тут некалі быў дом Божы, нагадвае драўляны крыж, які паставілі і ўшаноўваюць вернікі. Каля гэтага крыжа штогод, 13 чэрвеня, на ўрачыстасць Святога Антонія збіраліся на супольную малітву ўсе католікі. А з таго часу, як пачалося ў краіне духоўнае адраджэнне, сюды на свята пачаў прыязджаць ксёндз і адпраўляць Святую Імшу. Вядома ж, у такія дні Марыя Іосіфаўна была ў сваім родным Корані. "Каб можна было сваё жыццё аддаць за адбудаваны тут касцёл Святога Антонія, я ні на хвіліну б не задумвалася", – сказала яна ў нашай размове. Потым дадала: "Мне так баліць гэты касцёл, як нішто ў жыцці, і ні аб чым я так не марыла і не мару, як аб тым, каб была адбудавана гэтая святыня. Сама не магу зразумець, чаму гэта так моцна сядзіць у маёй душы".

Грошай для адбудовы касцёла ў Марыі Іосіфаўны, вядома, няма. Таму для гэтай справы яна аддае тое, што можа — свае шчырыя нястомныя малітвы, іншыя ахвяры. Напрыклад, як гэта. Некалькі гадоў таму яна пехатою пайшла з абразом Святога Антонія з Мінска ў Корань. Напярэдадні тры ночы ў сне чула нечы голас: "Занясі ў Корань абраз Святога Антонія". Памаліўшыся, вырашыла ісці, ахвяраваўшы гэту пілігрымку найласкавейшаму Богу. Пасля Святой Імшы ў Кальварыйскім касцёле жанчына рушыла ў нялёгкую дарогу. Праходзячы каля свайго дому, нават не зайшла — шкада было часу. Спынілася каля хаты Ванды Луцкай, на падворку якой цяпер стаіць капліца святога Юзафа. Пані Ванда дала Марыі Іосіфаўне ў дарогу ежы, лекаў, абяцала дапамагаць ёй сваімі малітвамі.

Ішла Марыя Іосіфаўна да Кораня тры дні. На гэтым шляху спаткала розных людзей. Былі і такія, што адмовіліся прыняць яе на начлег, але міласэрных людзей усё ж сустракалася больш. І вось з Божаю дапамогаю яна ў Корані. Запаліла свечку і з абразом Святога Антонія ды з малітвай да яго абышла на каленях 9 разоў месца былога касцёла. Абразік потым паставіла каля крыжа.

— Кожны раз мне невыносна балюча бачыць занядбанасць гэтага дарагога месца, — гаворыць са слязьмі на вачах Марыя Іосіфаўна. — За веру, за гэты касцёл загінуў мой тата. Тут, каля касцёла, пахаваныя яго бацькі. Але могілкі зруйнаваны, на іх цяпер стаяць прыбіральні. Няма ніякіх памятных знакаў і на магілах Луцэвічаў...

Глыбокую, моцную веру мае ў сваёй душы гэта жанчына. І як сама гаворыць, увайшла яна ў яе яшчэ з матчыным малаком. Марыя Іосіфаўна вельмі ўдзячная бацькам за прыклад вялікай самаахвярнай любові да Бога. Яе маці, Альбіна Казіміраўна Жукоўская, амаль ніколі не развітвалася з ружанцам і памерла, трымаючы яго ў руках. Здарылася гэта ў 1977 годзе, калі ў Мінску не дзейнічаў ніводны касцёл. Але якраз у той дзень да іхняй добрай знаёмай заехаў з Латвіі ксёндз. Ён адправіў у хаце жалобную Імшу, больш за 30 чалавек паспавядаў, потым многім удзяліў сакрамэнт хрышчэння і шлюбу. Родным нябожчыцы сказаў, што іх маці заслужыла такую ласку.

Успамінаючы ўсё гэта, Марыя Іосіфаўна расказала гісторыю, якая здарылася ў той час, калі іх сям'я была на высылцы ў Хароўску Валагодскай вобласці:

— Мая мама працавала на шклозаводзе "Заря". Неўзабаве да іх на завод прыслалі, таксама па высылцы, ксяндза з Адэсы. Працаваў ён у вельмі цяжкіх, нават жудасных умовах — каля топкі. Мама яго вельмі шкадавала і старалася заўсёды дапамагчы. І вось так здарылася, што памёр мамін швагер. Яна напісала пісьмо да сястры, каб тая выслала дакументы свайго мужа-нябожчыка. Сястра ў хуткім часе іх прыслала. Памятаю, неяк увечары гэты чалавек папрасіў нас усіх укленчыць, потым мы доўга маліліся. У канцы ён нас паблагаславіў і паехаў. Мама нікому не расказвала гэтай гісторыі, нават нам, дзецям. Даведаліся мы пра ўсё тое толькі ў дзень яе пахавання ад мамінай сяброўкі.



У часе Святой Імшы - на месцы былога касцёла. 13.06.1997г.

Слухаючы Марыю Іосіфаўну, я ўвесь час думала: як жа мы павінны дзякаваць вам, нашыя мілыя матулі і бацькі, бабулі і дзядулі, за вашую веру, за самаахвярнасць гэтай веры. Менавіта вы сталі тым падмуркам, на якім выстаяў касцёл. Потым вы першыя, рызыкуючы здароўем і нават жыццём, змагаліся за свае святыні. І адваявалі іх! Нізкі ўсім вам паклон!

Неяк адразу пасля смерці сваёй маці Марыя Жукоўская разам з іншымі католікамі паехала ў Маскву дабівацца перадачы вернікам Мінска хаця б аднаго касцёла. Доўга хадзілі яны па высокіх крамлёўскіх кабінетах і ўсё ж трапілі туды, дзе іх выслухалі. Паабяцалі дапамагчы. Але абяцанні чыноўнікаў заўсёды варта падмацаваць малітвай, бо ўсё ў руках Божых. Заказалі ў касцёле святога Людвіга, што на Лубянцы, Святую Імшу ў гэтай інтэнцыі. І вось цуд — Імша была адпраўлена адразу ж пры іх. "Пасля гэтага ўжо ніхто з нас не сумняваўся, — успамінае пані Марыя, — што Мінск будзе мець свой касцёл".

Так і здарылася. У хуткім часе вернікі атрымалі касцёл на Кальварыйскіх могілках. Ад шчасця Марыя Іосіфаўна гатовая была і дняваць і начаваць у святыні...

**Ц**япер Марыя Іосіфаўна — парафіянка капліцы святога Юзафа, што ў завулку Багдановіча, 38. Капліца знаходзіцца зусім блізка ад яе хаты. У яе гады і з яе здароўем — гэта сапраўдны падарунак Неба. І яна, напэўна, заслужыла такую ласку ў Бога.

Усё, здавалася б, добра, але вельмі ж баліць душа за родны касцёл у Корані. Ён усе гады блакітнай марай жыве ў яе сэрцы. І вось жыццё на схіле, а мара так і застаецца марай.

— Малыя мае ахвяры, ды й малітваў маіх, напэўна, не хапае Богу для здзяйснення гэтай справы, — уздыхае Марыя Іосіфаўна. Потым, звяртаючыся да ўсіх нас, дадае: — Памажыце, людзі добрыя, сваёй малітвай, прычыніцеся да справы адбудовы касцёла Святога Антонія цудатворцы ў Корані, і Бог узнагародзіць усіх вас".

***Галіна КАЛЕВІЧ***
***Фотаздымкі аўтара.***



**З НАШАЙ ПОШТЫ**



# *"Хачу, каб людзі ведалі..."*

Сваім жыццём я абавязана вечнай памяці ксяндзу Антонію Дзічканцу, былому пробашчу касцёла ў мястэчку Дзярэчын Гродзенскай вобласці. Гэта быў чалавек незвычайнай дабрыні і высокай маральнасці. Яго даўно ўжо няма на свеце: ксёндз Антоні памёр у 1951г. ад інсульта, пражыўшы ўсяго 54 гады. І хоць прайшло з таго часу амаль паўвеку, хоць сама я ўжо пражыла на гэтым свеце нямала, але ўвесь час стаіць у душы віна, што чагосьці вельмі важнага не зрабіла ў сваім жыцці, а менавіта: не аддзячыла ксяндзу Антонію за яго дабрыню, вялікую чалавечую і святарскую ахвярнасць. І таму гэта мая кароткая згадка пра яго, можа, хоць у нейкай ступені кампенсуе той неаплатны доўг, які я адчуваю перад святою памяццю гэтага незвычайнага чалавека.

... Мне было 4 гады, калі пачалася другая сусветная вайна. У першыя ж дні тае крывавай завірухі я страціла сваіх бацькоў. Падабраў мяне, маленькую сірату, у мястэчку Дзярэчын мясцовы пробашч Антоні Дзічканец. Акрамя мяне, ён узяў на выхаванне ў часе вайны яшчэ дваіх малых сіротаў – брата і сястру... У 1939г., калі польскае войска адступала з Дзярэчына, ксёндз Дзічканец ўратаваў мястэчка ад зруйнавання, а людзей ад смерці...

Як родных выхоўваў нас ксёндз Антоні да 1951г., да самай смерці. У 1946г. ён хацеў выехаць у Польшчу, дзе жылі ягоныя брат і маці. Але яму не дазволілі ўзяць з сабою прыёмных дзяцей. І ён не пакінуў нас, не аддаў у дзіцячы дом, застаўся ў Беларусі. Усё сваё жыццё ксёндз Антоні жыў як пад вартаю: не меў права без дазволу ўладаў нікуды ані выехаць, ані выйсці – толькі з дому да касцёла і назад. Ён дапамагаў людзям у часе вайны і пасля падтрымліваў усіх як душпастыр і чалавек вялікага сэрца...

Ксёндз Антоні Дзічканец пахаваны ў мястэчку Дзярэчын каля касцёла. Удзячная памяць пра яго жыве ў сэрцах тых, хто яго ведаў, у іх пастаянных малітвах. Прыклад яго жыцця, прыклад яго ахвярнага служэння сваім бліжнім дапамагае нам і сёння па-хрысціянску жыць, захоўваць і ўмацоўваць сваю каталіцкую веру. А я не перастаю дзякаваць Богу за тое, што даў мне ласку ведаць, адчуваць падтрымку, дабрыню і чуласць гэтага святога чалавека.

*Людміла Даманская,*
*г.Беразіно*





**СВЯТЫНІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ**



# ПАДЗЕМНЫ КАСЦЁЛ

**Д**аліну ракі Мажы, якая плаўна цячэ на поўдні Капыльскага раёна, людзі абжылі вельмі даўно, пра што сведчаць курганы далёкага, яшчэ дахрысціянскага мінулага. Расказваючы пра мястэчка Чырвоная Дуброва, хацелася б адразу перайсці да хрысціянскага сённяшняга, але ж няма яго, няма зусім. Гэта бяда нашай зямлі – у пагоні за "светлай будучыняй" згубілі мінулае, а без яго, як высвятлілася, няма ні сённяшняга, ні гэтай самай будучыні, нават калі яна "светлая".

У XIXст. у мястэчку Макраны на сродкі памешчыкаў Вайніловічаў (яны ж фундавалі і Чырвоны касцёл у Мінску) пабудавалі каталіцкі касцёл і праваслаўную царкву. Абодва храмы былі ўзведзеныя над гандлёвай плошчаю. Царква ўзвышалася на невялікім пагорку. Да касцёла вяла раскошная піхтавая алея... Храмы розных канфесій вакол кірмашовай плошчы характэрныя менавіта для Беларусі. Нічога падобнага вы не сустрэнеце ні ў якой іншай краіне свету, таму што паўсюль "дзяржаўная рэлігія" пацвярджаецца цэнтральным галоўным саборам горада. Гэты храм і іншыя, меншыя, надаюць кожнаму гораду, краіне сваё непаўторнае аблічча. Над Заходняй Еўропай – вастраканечныя шпілі каталіцкіх касцёлаў, над Расіяй – залатыя макаўкі цэркваў. Тут жа, у Вялікім Княстве Літоўскім, вядомым сваёю талерантнасцю і верацярпімасцю, сілуэты гарадоў і мястэчкаў фармавалі амаль роўныя па аб'ёме храмы вакол галоўнай плошчы: каталіцкі касцёл і праваслаўная царква, уніяцкі і рэфарматарскі храмы, габрэйская сінагога і татарская мячэць.

Таму і ў мястэчку Макраны стаялі на плошчы насупраць адзін аднаго касцёл і царква. Як браты-блізняты, яны з'явіліся на свет і пайшлі з жыцця амаль адначасова, калі загучала "разрушим до основанья, а затем..." Аднак, "затем" так і не надышло. У царкве зрабілі млын, але вібрацыя ад механізмаў хутка разбурыла будынак. Яго так і кінулі ў руінах. З касцёлам абышліся яшчэ прасцей – проста сцерлі з твару зямлі, а каб канчаткова пазбавіцца ад мінулага, у 1961г. Макраны перайменавалі ў Чырвоную Дуброву. Між тым у каталіцкай Польшчы, мяжа з якой да апошняй вайны праходзіла адразу за Макранамі, у вёсцы Кунцаўшчына (кіламетры за тры адсюль) у XIXст. была пабудаваная царква, прыпісаная да Макранскай. Яна паспяхова дзейнічала не толькі ў трыццатыя гады, але й працуе да сённяшняга дня. Атрымліваецца, што з таго боку мяжы "светлую будучыню" разумелі інакш.

Даўно ўжо няма ў Чырвонай Дуброве кірмашовай плошчы (частку яе былога месца займаюць нейкія агароды). На пагорку з году ў год меншаюць руіны царквы. Касцёльныя піхты яшчэ стаяць, але алеі даўно няма. Вузенькая сцежка вядзе да маленькага пагорка, у якім... раптам прыкмячаеш дзірку, падобную да ўваходу ў пячору ці партызанскую зямлянку. З цяжкасцю праціснуўшыся ў яе, застываеш у

нямым захапленні – перад табою цалкам захаваны касцёл, дакладней, ніжняя яго частка, так званы kościół dolny. Праз такія ж дзіркі над вокнамі сюды трапляе дастаткова яркае дзённае святло, якое асвячае месца алтара ў круглай



апсідзе, тры навы, калоны і скляпенні. Такое ўражанне, што апынуўся ў "партызанскім" касцёле Арміі Краёвай.

Цікава, што касцёл мае як бы двайную апсіду – за паўкруглай сцяной, якая агароджвае алтар, таксама паўкругам ідзе вонкавая сцяна храма і таму, не выходзячы з касцёла, можна трапіць з левай навы ў правую, прайшоўшы за апсідай. Такі прыём у дойлідстве характэрны для гатычных храмаў сярэднявечнай Еўропы і амаль невядомы на Беларусі. Мяркуючы па ацалелым дэкоры ўнутранага ўбрання, храм быў пабудаваны ў стылі неарэнесансу. У тоўшчы вонкавых сценаў ніжняга касцёла зроблены 72 нішы для пахаванняў. Яны, вядома ж, усе разрабаваныя.

Затое цяпер падлога храма завалена шкілетамі жывёлаў – тут зрабілі могільнік. Калісьці людзі хавалі тут людзей, а як назваць тых, хто хавае тут жывёлу? Відаць, яшчэ доўга Чырвоная Дуброва будзе чырвонай, паколькі доўга прыйдзецца чырванець ад сораму. Не за мінулае. За сённяшняе.

***А.ЯРОМЕНКА***
***Фотаздымкі аўтара.***


**«Ave Maria»**
Студзень-люты № 1-2 (39-40) 1998
Заснавальнік –
Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце
Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйны № 225.
Рэдакцыйная рада
Надрукавана ў друкарні "НЭСІ",
220141 г.Мінск, вул.Жодзінская, 18.
Зак. 5. Наклад 9 000 экз.
Адрас рэдакцыі:
220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9,
тэл./факс: (0172) 26-90-92
Архікатэдральны касцёл
Імя Найсвяцейшай Марыі Панны
Часопіс выдаецца
на ахвяраванні вернікаў


**У НУМАРЫ**







## КРАСАВІК

| | | |
|---|---|---|
| 1 | ср | Х'юга, Гражыны |
| 2 | чц | Францішка, Марыі, Тэадозіі |
| 3 | пт | Сыкста, Рычарда |
| 4 | сб | Ізыдара, Бенэдыкта |
| 5 | нд | **Вербная Нядзеля** Вінцэнта, Ірэны |
| 6 | пн | Цэлестыны, Карнэліі |
| 7 | аўт | Яна, Руфіна |
| 8 | ср | Вальтэра, Юліі |
| 9 | чц | **Вялікі Чацвер** Марыі, Дзімітра |
| 10 | пт | **Вялікая Пятніца** Фульберта, Магдалены |
| 11 | сб | **Вялікая Субота** Піліпа, Алены |
| 12 | нд | **Вялікдзень** Юліі, Зянона |
| 13 | пн | **Велікодны Панядзелак** Марціна |
| 14 | аўт | Ламберта, Валяр'яна |
| 15 | ср | Анастазіі, Цэзара |
| 16 | чц | Бернадэты |
| 17 | пт | Роберта |
| 18 | сб | Багуславы, Марыі |
| 19 | нд | **II нядзеля Велікодная** **Божай Міласэрнасці** Лявона |
| 20 | пн | Агнешкі, Марцэліны |
| 21 | аўт | Анзельма, Конрада, Барташа |
| 22 | ср | Тэадора, Сотэра |
| 23 | чц | Войцаха, Ідзія |
| 24 | пт | Юрыя, Фідэліса |
| 25 | сб | Марка Евангеліста, Яраслава |
| 26 | нд | **III нядзеля Велікодная** Мажэны, Клета |
| 27 | пн | Зіты, Феліцыі |
| 28 | аўт | Пятра, Людвіка |
| 29 | ср | Кацярыны Сененскай, Х'юга |
| 30 | чц | Пія, Даната, Мар'яна |

***Вяночак да Божай Міласэрнасці***
(на звычайным ружанцы)

*Напачатку:*
***Ойча наш...; Вітана будзь, Марыя...; Веру ў Бога...***

*На вялікіх пацерках:*
***Ойча Спрадвечны, ахвярую Табе Цела і Кроў, Душу і Боскасць наймілейшага Сына Твайго і Пана нашага Езуса Хрыста, каб перапрасіць за грахі нашыя і ўсяго свету.***

*На малых пацерках:*
***Дзеля Яго балеснай мукі май міласэрнасць да нас і ўсяго свету.***



## МАЙ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | пт | Юзафа |
| 2 | сб | Зыгмунта, Анастазія |
| 3 | нд | **IV нядзеля Велікодная** Марыі, Антаніны |
| 4 | пн | Фларыяна, Монікі |
| 5 | аўт | Ірэны, Готарда |
| 6 | ср | Піліпа, Якуба |
| 7 | чц | Людмілы, Ружы |
| 8 | пт | Станіслава |
| 9 | сб | Пахома, Рыгора |
| 10 | нд | **V нядзеля Велікодная** Антонія, Беатрычы |
| 11 | пн | Ігі, Ігната, Міры |
| 12 | аўт | Нарэя, Ахіла, Панкрата |
| 13 | ср | Роберта, Сарвацыя |
| 14 | чц | Мацвея, Юстыны |
| 15 | пт | Зоф'і, Ізыдара |
| 16 | сб | Андрэя Баболі |
| 17 | нд | **VI нядзеля Велікодная** Вільгельма, Славаміра |
| 18 | пн | Яна, Фелікса, Эрыка |
| 19 | аўт | Урбана, Івона |
| 20 | ср | Бернардына, Аляксандра |
| 21 | чц | **Унебаўшэсце Пана** Яна, Віктара |
| 22 | пт | Рыты, Веславы |
| 23 | сб | Дэзыдара, Івоны |
| 24 | нд | **VII нядзеля Велікодная** Марыі, Зузаны |
| 25 | пн | Бэды, Рыгора, Марыі Магдалены |
| 26 | аўт | Піліпа, Эвеліны, Ламберта |
| 27 | ср | Аўгустына, Фрыдэрыка |
| 28 | чц | Германа, Яраміра |
| 29 | пт | Уршулі |
| 30 | сб | Яна, Жаны д'Арк |
| 31 | нд | **Спасланне Духа Святога** Марыі, Анелі |

## ЧЭРВЕНЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | пн | **Найсв.Марыі Панны Маці Касцёла**, Юстына |
| 2 | аўт | Марцэліны, Пятра |
| 3 | ср | Караля, Лешка |
| 4 | чц | Францішка, Пацыфіка |
| 5 | пт | Баніфацыя, Юльяна |
| 6 | сб | Норберта, Паўліны |
| 7 | нд | **Найсвяцейшай Тройцы** Роберта, Веслава |
| 8 | пн | Максіма, Севярына |
| 9 | аўт | Эфрэма, Феліцыяна |
| 10 | ср | Багуміла, Дыяны, Малгажаты |
| 11 | чц | **Цела і Крыві Хрыста** Барнабы |
| 12 | пт | Ануфрыя, Лявона |
| 13 | сб | Антонія, Герарда |
| 14 | нд | **XI нядзеля звычайная** Міхала, Руфіна, Валянціна |
| 15 | пн | Іаланты, Віта |
| 16 | аўт | Бенона, Юліты |
| 17 | ср | Альберта, Аліны, Лаўры |
| 18 | чц | Аманда, Рыгора |
| 19 | пт | **Найсв.Сэрца Пана Езуса** Рамуальда |
| 20 | сб | **Беззаганнага Сэрца НМП** Богны |
| 21 | нд | **XII нядзеля звычайная** Алойза, Аліцыі |
| 22 | пн | Паўліна, Яна, Тамаша |
| 23 | аўт | Зянона, Ванды |
| 24 | ср | **Нараджэнне св.Яна Хрысціцеля,** Данута |
| 25 | чц | Вільгельма, Дароты, Максіма |
| 26 | пт | Рудольфа, Віргілія |
| 27 | сб | Кірыла, Уладзіслава |
| 28 | нд | **XIII нядзеля звычайная** Ірынэя, Вінцэнцыі |
| 29 | пн | **св.Апосталаў Пятра і Паўла** |
| 30 | аўт | Эмілія, Люцыны, Раймунда |

*На заканчэнне Вяночка*
***Святы Божа, Святы Моцны, Святы Несмяротны, змілуйся над намі і над усім светам.*** *(3 разы)*

**1998**